Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!




# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІСЬ ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б


№ 9

ВЕРАСЕНЬ





МЕНСК—1927

**М. Абрамчук.**

# На парозе напружнае працы.

*(Да пачатку новага году парт'асьветы).*

Апошнія два навучальныя гады ў партасьвеце зьяўляюцца гадамі плянавасьці і сыстэматычнасьці, за якія ўстанавілася сталая сыстэма, падрыхтаваўся кадр кіраўнікоў партыйных школ, пашырыўся ахоп ўсёй сыстэмай: у горадзе—скарочанай, нармальнай, вячэрняй, совпартшкол, павышанымі гурткамі (ленінізму, марксызму, гісторыі партыі, палітэканоміі і інш.), у Менску—Вячэрнім Комвузам; у вёсцы—перасоўкай, стацыянаркай, гурткамі і самаадукацыяй, парторганізацыі (у 1925-26 г. да 70%, у 1926-27 г.—да 60 %), павялічыўся ахоп комсамолу і беспарт. актыву. Асабліва трэба адзначыць—гэта пашырэньне і паглыбленьне вывучэньня ленінізму і паляпшэньня вывучэньня і высьвятленьне пастаноў партыі (зьездаў, конфэрэнцый, пленумаў ЦК), з пункту гледжаньня ўчэньня Леніна—*школы ўсё болей пачынаюць зьяўляцца ня толькі школамі, якія даюць суму ведаў, але зьяўляюцца школамі барацьбы за ідэёвую вытрыманасьць і сталёвае адзінства партыі.*

Аб задачах комуністычнага выхаваньня і політычнае вучобы Ленін пакінуў нам завет, як і чаму павінны мы вучыцца, каб пасьпяхова давесьці начатую справу,—ён вучыў: „Мы павінны вучыцца комунізму“. Але каб вучыцца комунізму недастаткова атрымаць суму ведаў, якія выкладаны ў нашых комуністычных падручніках. Ленін на III-м зьездзе Комсамолу так сказаў:

> „Если бы только изучение коммунизма заключалось в усвоении того, что изложено в коммунистических трудах, книжках и брошюрках, то тогда слишком легко мы могли бы получить коммунистов начетчиков или хвастунов, а это сплошь и рядом приносило бы нам вред и ущерб, так как эти люди, научившись и начитавшись того, что изложено в коммунистических книжках и брошюрках, оказались бы неумеющими соединить все эти знания и не сумели бы действовать так, как того действительно коммунизм требует“.

Гэтага вучэньня мы ніколі не павінны забываць і заўсёды нашу вучобу павінны зьвязваць з практычнай працай слухачоў, уцягваць іх у практычную працу, дапамагаць ім працаваць, тэорэтычна падмацаваць іх, увязаць вучобу з задачамі партработы, з задачамі вытворчасьці, з усёй канкрэтнай абстаноўкай слухача—дапамагаючы партыйцу, комсамольцу актыўней прымаць удзел у соцыялістычным будаўніцтве. Ленін некалькі раз падкрэсьліваў, што мы сваё вучэньне павінны заўсёды зьвязваць з працай рабочых і сялян. Мы ніколі не павінны ў школе абмяжоўвацца чытаньнем кніжак, а:

> „Должны все задачи своего учения ставить так, чтобы каждый день в любой деревне, в любом городе решали практически ту или иную задачу общего труда, пускай самую маленькую, пускай самую простую“.

Але гэта не азначае, што мы ў партвучобе не павінны ўдзяляць увагі вывучэньню тэорыі, фактаў, гістарычных прыкладаў, усяго багацьця гісторыі. Ленін, адказваючы на пытаньне, як можна стаць комуністым, кажа:

> ... Коммунистом стать можно лишь тогда, когда обогатишь свою память знанием всех тех богатств, которые выработало человечество",

але ня зуброжкай, „на веру", а

> ... „должны не только усвоить их (факты), но усвоить так, чтобы отнестись к ним критически, чтобы не загромождать ума тем хламом, который не нужен, а обогатить его знанием всех фактов, без которых не может быть современного человека".

Выходзячы з вучэньня Леніна, перад партасьветай стаяць наступныя задачы: падрыхтаваць з слухачоў кадры барацьбітоў і будаўнікоў соцыялізму, моцных бальшавікоў-ленінцаў, асьвятліць марксыцка-ленінскім вучэньнем нашу працу і акаляючае жыцьцё і сучаснасьць, на матэрыяле праграмы курса, школы, гуртка, і на асобных гістарычных фактах і прыкладах навучыць слухачоў разглядаць зьявішча ўнутранае і знадворнае політыкі, з пункту погляду клясавага падыходу, зацікавіць слухачоў пытаньнем грамадзкага жыцьця, навучыць у час заняткаў у школе самым простым і самым неабходным навыкам разумовае працы, прывіць навыкі самаадукацыі, каб яны маглі пасьля вучобы ў школе працягнуць сваё політычнае разьвіцьцё.

СССР з кожным годам мацнее, гаспадарка расьце, скончыўся пэрыяд адбудаваньня, мы ўступілі ў пэрыяд рэканструкцыі народнай гаспадаркі, узмацняецца дыктатура пролетарыяту на падставе саюзу рабочае клясы і сялянства, растуць соцыялістычныя элемэнты экономікі краіны, паляпшаецца матэрыяльнае становішча працоўных.

Але побач з ростам мы маем шэраг цяжкасьцяй, замядленьне тэмпу росту шэрага паказацеляў гаспадарчага будаўніцтва, зьвязанага з рэканструкцыяй. Пашырэньне асноўнага капіталу патрабуе шмат сродкаў, якія бяруцца з абароту і толькі дадуць эфэкцыйныя вынікі праз некаторы час, у зьвязку з чым мы маем замядленьне тэмпу росту заробку, замядленьне тэмпу росту колькасьці рабочых у прамысловасьці, недастаткова шпарка ідзе ў зьвязку з замядленьнем росту прадукцыі прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, паляпшэньне дабрабыту мас, як нам-бы гэтага хацелася.

Становішча краіны ўскладняецца яшчэ навісшай пагрозай вайны, якая патрабуе дадаткова работы, дадаткова сродкаў па падрыхтоўцы абароны СССР. Усё гэта патрабуе ад партыі яшчэ больш напружанасьці ў соцыялістычным будаўніцтве, організованасьці, умацаваньня саюзу рабочае клясы і сялянства, умацаваньня бядняцка-серадняцкага блёку, цьвёрдасьці і гібкасьці кіраўніцтва, крэпасьці і яднанасьці шэрагаў рабочае клясы, шэрагу авангарду рабочае клясы—КП(б)Б.

Зьмест соцыялістычнага будаўніцтва—індустрыялізацыя краіны, умацаваньне саюзу рабочае клясы і сялянства, замацаваньне дыктатуры пролетарыяту, пашырэньне соцыялістычных элемэнтаў у вёсцы у бягучы пэрыяд партыяй зьяўляецца ў правядзеньні партыяй наступных практычных мерапрыемстваў: ажыўленьне саветаў і барацьба з бюрократызмам, рацыяналізацыя прамысловасьці, правядзеньне рэжыму экономіі, зьніжэньне цэн, коопэрыраваньне вёскі, пазыка індустрыялізацыі... Пагэтаму, асабліва перад партасьветай, паўстае задача вывучэньня лініі рашэньняў партыі, увязка працы партшкол з задачамі і працай на прад-

прыемствах, у вёсцы, установах; садзейнічаньне слухачом, як вучыў Ленін: „няхай самую маленькую, няхай самую простую“, праводзіць практычную працу па соцыялістычнаму будаўніцтву. Кожнаму пропагандысту (кіраўнікам палітшкол, гурткоў) трэба шчыльней увязаць сваю працу школ з практычнай працаў слухачоў, а для гэтага самім вывучыць канкрэтнае становішча працы, гаспадаркі тых прадпрыемстваў, у якіх працуюць слухачы і будаваць працу, скарыстоўваючы прыклады, матар‘ялы з месц. У мінулым годзе пахваліцца ўвязкай працы школ з мясцовымі ўмовамі мы ня можам. Бюро ЦК КПБ гэтак і адзначыла „няўвязка з бягучымі пытаньнямі і практычнай працай партыйцаў на прадпрыемствах“. Выконваньне гэтае задачы ложыцца на пропагандыстых у 1927-28 навучальным годзе.

Складаныя задачы соцыялістычнага будаўніцтва, культурна-палітычны ўзрост шырокіх мас патрабуе падвышэньня падрыхтоўкі старых і падрыхтоўкі больш новых кадраў актыву ўсіх галін працы. Трэба паставіць належным чынам працу з актывам, падзяляючы яго ў дабраахвотным парадку па галінах працы для вывучэньня палітыкі партыі і практычнай працы ў тых галінах, у якіх ён працуе. Але трэба перш-наперш партыйным камітэтам рашуча паставіць пытаньне на практычныя рэйкі аб разгрузцы актыву. Калі не разгрузіць актыў, не рацыяналізаваць рабочы дзень, вядома нічога ня выйдзе. Перад пачаткам навучальнага году трэба правесьці лёзунг, які ўсё часьцей раздаецца сярод актыву: „даеш разгрузку“ ў жыцьцё. Але ў гэтай справе шмат залежыць ад саміх актывістых,—мы яшчэ ня ўмеем рацыянальна скарыстаць час, трэба таксама кожнаму падлічыць гадзіны, якія трацяцца дарэмна і ўкамплектаваць дзень з тым, каб выкраіць некалькі гадзін для ўчобы. Трэба толькі падлічыць, колькі траціцца часу на „пачакай“ пасяджэньняў камісій; часам без пасяджэньняў некаторыя пытаньні можна вырашыць пад адказнасьцю ведаючага працаю, часам на плечы аднаго ўскладаецца шмат, а другога не дагрузілі. Можна шмат найсьці шляхоў для таго, каб правесьці разгрузку актыву. Трэба толькі рашуча ўзяцца за гэта.

Цяжкасьці соцыялістычнага будаўніцтва ў капіталістычным акружэньні, супярэчнасьці росту, цяжкасьці барацьбы міжнароднага пролетарыяту выклікала ў нязначных групах таварышоў хістаньне, нявер'а ў перамогу соцыялізму, у моц творчай здольнасьці пролетарыяту, і зараз мы бачым, як група т. зв. опозыцыянэраў скацілася ў дробна-буржуазнае русло, прыняўшы пляцформу троцкізму, якая рэвізуе ленінізм. Замест узмацненьня працы па соцыялістычнаму будаўніцтву, па узмацненьню абароназдольнасьці СССР, перамозе цяжкасьцяй, замест адзінства шэрагаў партыі,—опозыцыя і г. д.

Опозыцыя скарыстоўвае цяжкасьці соцыялістычнага будаўніцтва, настроі і нездаваленьне замедленым тэмпам гаспадарчага будаўніцтва, цяжкасьці міжнароднага становішча, пагрозы вайны супроць СССР, частковага паражэньня кітайскае рэвалюцыі, якая пераходзіць у новы, больш высокі тэмп свайго разьвіцьця, вядзе пасіленую фракцыённую дезорганізатарскую анціленінскую работу, абвінавачваючы партыю, яго Цэнтральны Камітэт у перараджэньні, кулацкім ухіле, бюрократызьме і інш. Корань абвінавачаньня хаваецца ў пляцформе троцкізму, погляды якога зводзяцца к наступнаму:

а) у нашай краіне няма даных для організацыі соцыялістычнае грамады, таму што краіна тэхнічна адсталая;

б) недаацэнка рэвалюцыйных сіл пролетарыяту: невялікая колькасьць яго ў краіне і пераважнасьць дробнай буржуазіі, што абумоўлівае слабасьць дыктатуры пролетарыяту;

в) недаацэнка ролі сялянства—сялянства ёсьць варожае да соцыялістычнага будаўніцтва.

На падставе гэтых трацкісцкіх поглядаў опозыцыя і вядзе барацьбу з ленінскім ЦК, з усёй нашай партыяй. Яна вядзе барацьбу з ленінізмам, узброеная вярыгамі троцкізму на чале з Троцкім, які дзясяткі год вёў барацьбу з Леніным, які таксама на ўсіх пераломных, найбольш цяжкіх момантах нашае барацьбы, нашага соцыялістычнага будаўніцтва (1921, 1923, 1925, 1926 і 1927 гады) актыўна вёў і вядзе барацьбу супроць партыйнага кіраўніцтва, супроць партыі, пастаноў зьездаў, конфэрэнцыі, ленінскага ЦК УсеКП(б). Пагэтаму на партасьвету ускладаецца *вялікая задача* растлумачваць сутнасьць троцкізму, як соцыял-дэмократычны ўхіл. Навучыць ленінізму і ленінскім шляхом соцыялістычнага будаўніцтва пролетарскай рэвалюцыі. Даць ленінскае асьвятленьне на матэрыял курса, школы, гуртка на гістарычных прыкладах пастаноў партыйных зьездаў усіх зьявішч як надворнай, так і унутранай політыкі. Загартаваць шэрагі партыі, яшчэ болей бальшавізіраваць КП(б)Б, вядучы ўпартую барацьбу з дробна-буржуазнымі настроямі і з рэшткамі перажыткаў мінулага. Барацьба за сталёвае адзінства нашае партыі, проці фракцыйнасьці груповак, проці соцыял-дэмократычнага поўменшавіцкага ўхілу опозыцыі.

Узросшы політыка-культурны ўзровень партыцаў, складанасьць пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва і міжнароднае рэвалюцыйнае барацьбы, з аднаго боку, і нявыстарчальная гібкасьць форм партасьветы, пры якіх некаторыя прымушаны былі сядзець у адной школе некалькі гадоў, пры чым яшчэ не заўсёды лічыліся з тэхнічнай граматнасьцю таго ці іншага партыйца, які, ня ўмеўшы чытаць матэрыялаў самастойна, прымушан быў сядзець з добра граматным, з другога боку,—выклікалі ў мінулым годзе нездаволенасьць нашымі палітшколамі. Партыец хацеў вывучаць, паглыбляючы свае веды па гаспадарчаму ці міжнароднаму пытаньню, а яму адказвалі: ты павінен скончыць такую-та школу; або партыец хацеў з другімі таварышамі вывучаць ленінізм, ці палітэканомію, а яму казалі: ідзі ў організаваны гурток. Такіх прыкладаў можна было-б прывесьці шмат. Улічваючы ўсё гэта, Бюро ЦК КП(б)Б ухваліў:

> „Адмовіцца ад падняволенасьці і разьвёрсткі па школах, узяць рашучы курс на дабраахвотнасьць выбару форм партыйнае асьветы, лічачы для партыйцаў абавязковы толькі адзін год навучаньня ў школе: для гарадзкіх—скарочаная школа, для вясковых—рухомая альбо стацыянарка“.

Але гэта не азначае, што толькі ў рамках праграмы скарочанае школы і рухомай школы політычны мінімум ведаў здаволіць партыйцаў. Наадварот, ЦК лічыць мінімум політычных ведаў абавязкова павінен набывацца пры дабраахвотных выбарах форм партасьветы (школы, гурткі, самаадукацыя) у разьмеры праграмы нармальнае школы.

Гэта пастанова патрабуе ад камітэтаў партыі правесьці вялікую падрыхтоўчую працу па выяўленьню жаданьняў партыйцаў, і на падставе гэтага ўкамплектаваньня школ, гурткоў, падбору кіраўнікоў, організацыі самаадукацыі, наладжваньня консультацыі, організацыі завочнага навучаньня і інш.,—трэба больш удзяліць увагі да ўкамплектаваньня аднародным складам партсеці, пры чым правесьці спэцыяльную працу па ўцягненьню тэхнічна малапісьменных таварышоў у школы галоўпалітасьветы малапісьменных.

Трэба малапісьменным таварышом, якія ня могуць самастойна чытаць кніжкі, газэты, даць магчымасьць падвучыцца у школах малапісь-

меннасьці, агульна-адукаваным відам, і, вядома, такіх таварышоў аслабаніць у гэтым годзе ад вучэньня ў абавязковым парадку ў школах палітграматы.

Наогул, пры ўкамплектаваньні партсеці трэба падыйсьці да кожнага таварыша, улічваючы яго мажлівасьць, яго жаданьні займацца тымі пытаньнямі ў той школе альбо групе, дзе ён можа па сваёй падрыхтоўцы, і чым ён цікавіцца. Апошняе датычыцца тых таварышоў, якія скончылі скарочаную школу альбо школу-перасоўку ці стацыянарку.

Некаторыя таварышы тлумачаць пастанову ЦК аб дабраахвотным выбары форм партасьветы, як паслабленьне ў партвучобе. Гэтае талкаваньне зьяўляецца памылковым і шкодным, наадварот, гэта азначае, што ў партвучобу (у школу, гурткі самаадукацыі як гуртковую, так і індывідуальную) пры зацікаўленасьці партыйцаў павінна быць уцягнута больш, чымся ў мінулым годзе. Гэта патрабуе ад камітэтаў партыі больш партвучобы, больш гібкасьці, больш кіраўніцтва і дапамогі прапагандыстым.

Асаблівую ролю павінен зыграць агітпропгабінэт. Ён павінен стаць лябараторыяй партвучобы, колектыўным кіраўнікам яе.

За апошнія два гады мы маем дасягненьні ў вылучэньні новых кадраў прапагандыстых з рабочых ад варштату. Гэту працу трэба і надалей рашуча працягнуць. Але ў вылучэньні маецца хіба,—вылучаюцца таварышы з малым партыйным стажам і нават ёсьць кандыдаты партыі. На гэта партыйным камітэтам трэба зьвярнуць увагу, і пры далейшым высоўваньні на прапагандысцкую працу зьвярнуць увагу на партыйны стаж.

Кіраўніком партшколы патрабуецца ня толькі веды па падручніку, а быць цьвёрдым ленінцам, загартованым у барацьбе і з вопытам партыйнай ячэйковай працы, чаго, вядома, кандыдат альбо малады член партыі, ня гледзячы на яго палітграматнасьць, атрыманую з кніжак, ня мае.

У мэтах умацаваньня кіруючай ролі рабочае клясы сялянствам, паляпшэньня і паглыбленьня масавай працы партыі на роднай мове і пашырэньня ўплыву партыі сярод сялянства, Кастрычнікаўскі пленум ЦК КП(б)Б—1926 г. ухваліў:

**...„Уся КП(б)Б павінна гаварыць на беларускай мове“.**

Гэту пастанову ў мінулым годзе парторганізацыі праводзілі ў жыцьцё побач з гурткамі, выкарыстоўваючы і партсець, узяўшы адну гадзіну ў нармальных школах у горадзе. Адмовіцца ў гэтым годзе ад скарыстаньня партсеці для вывучэньня беларускае мовы мы пакуль ня можам датуль, пакуль ня выпаўнім пастановы ЦК аб беларускай мове. Пагэтаму ЦК КП(б)Б ухваліў:

> ... „Надаючы палітычнае значэньне вывучэньню партыйцамі беларускае мовы, скарыстаць партыйную сетку для вывучэньня яе, адвёўшы ёй адпавядаючае месца ў раскладзе заняткаў, але без дадатковага дня, а таксама перавесьці максымальную колькасьць нармальных школ на беларускую мову“. (Рэзалюцыя Бюро ЦК КПБ аб выніках партасьветы за 1926-27 год).

Ітак, за пачатак навучальнага гаду пад лёзунгам за адзінства партыі, за ідэёвую вытрыманасьць партвучобы, за яшчэ большую бальшавізацыю КП(б)Б, за выхаваньне будаўнікоў соцыялізму, на падставе гібкасьці форм партасьветы—за яшчэ больш ахоп організацыі ленінскай партыйнай вучобай.

**М. Баран.**

# На шляху да соцыялізму.

Папулярнейшым лёзунгам у нашай краіне, за апошнія гады, зьяўляецца лёзунг партыі аб „індустрыялізацыі СССР“.

Побач з гэтым генэральным лёзунгам, партыяй зьвернута ўвага краіны на неабходнасьць правядзеньня рэжыму экономіі, зьніжэньня цэн на прамтавары і рацыяналізацыю вытворчасьці і апарату.

Гэтыя апошнія тры лёзунгі ня толькі цесна зьвязаны паміж сабою, але й падпарадкуюцца паказанаму генэральнаму лёзунгу. Яны павінны служыць яму падставай. Яны павінны прысьпяшыць ажыцьцяўленьне гэтага лёзунгу, які павінен „Расею нэпаўскую перавярнуць у Расею соцыялістычную“.

Можна, бязумоўна, адзначыць, што й беларуская партыйная організацыя ўразумела ўсе гэтыя лёзунгі. Гэта, канешне, ня выключае асобных памылак і нават скажэньняў. Апошнія адчуваюцца. Але хіба яны могуць ня быць на такім цяжкім уздыме. Гаварыць, што ў нас толькі скажэньні й памылкі могуць, супраўды, толькі тыя, якія ставяць сваёй мэтай „апаганіць кіраўніцтва партыі ў галіне народнай гаспадаркі“.

Асноўнай задачай гэтага артыкулу—канкрэтна—практычнае асьвятленьне пытаньняў, зьвязаных з індустрыялізацыяй краіны, правядзеньнем рэжыму экономіі, рацыяналізацыі і зьніжэньня цэн, з скарыстоўваньнем дадзеных як усяго СССР, так і ў асаблівасьці і БССР. Пры гэтым патрэбна прыняць пад увагу, што разьмер артыкулу не дазваляе падрабязгова застанавіцца на выкладаньні многіх момантаў.

## I.

Пад азначэньнем „індустрыялізацыя“ разумеецца павышэньне ўдзельнай вагі прамысловасьці ўва ўсёй народнай гаспадарцы Гэта ня проста разьвіцьцё прамысловасьці, а разьвіцьцё прамысловасьці, папярэджваючае ўзрост сельскае гаспадаркі.

Як вядома, асноўнай мэтай індустрыялізацыі зьяўляецца разьвіцьцё вытворчых сіл краіны, у выніку чаго гаспадарка СССР павінна стаць незалежнай ад капіталістычных краін.

Пры гэтым ня варта, канешне, разумець, што гаспадарка СССР імкнецца канчаткова аслабаніцца ад абкружаючага міру. Гэта-б было парадоксам. Падзяленьне працы ўва ўсім сьвеце зайшло настолькі далёка, што наўрад ці варта нават думаць аб абасабленьні гаспадаркі СССР. Але ў нашай краіне ёсьць усе пэрспэктывы к самастойнаму разьвіцьцю сваёй прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, іначай кажучы, асноўных элемэнтаў экономікі краіны. Такое самастойнае разьвіцьцё прамысловасьці і сельскай гаспадаркі неабходна нам і таму, што мы знаходзімся ў абкружэньні капіталістычных краін. Апошнія пры першай магчымасьці не адмовяцца прыняць усе меры к організацыі агульна-эканамічнай блёкады Савецкага Саюзу.

Апошні аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК УсеКП па пытаньню „аб гаспадарчых дырэктывах на 1927-28 год" адзначыў, як вызначальную рысу бліжэйшага пэрыяду:

„Гаспадарчае разьвіцьцё наступаючага году і, магчыма, бліжэйшых гадоў будзе праходзіць пад уплывам шэрагу новых фактараў, моцна мяняючых складзеныя за апошнія гады абставіны. Важнейшай адрозьніваючай асаблівасьцю новых абставін зьяўляецца агульнае абвастрэньне міжнародных адносін і, у прыватнасьці, ускладненьне міжнароднага становішча СССР. Разрыў консэрватыўным урадам Ангельшчыны адносін з СССР ня толькі прасьледуе непасрэдную мэту паслабленьня эканамічнай моцы Савецкага Саюзу, але й робіць магчымай організацыю простага нападу на СССР. У сувязі з гэтым важнейшай політычнай задачай становіцца, помеж з адхіленьнем непасрэдных спроб ангельскіх консэрватараў організаваць агульнаэканамічную блёкаду Савецкага Саюзу і няўхільным працягненьнем політыкі міру, правядзеньня ў карацейшы тэрмін неабходных мерапрыемств па падрыхтоўцы краіны на выпадак ажыцьцяўленьня імпэрыялістычнымі дзяржавамі эканамічнай блёкады альбо ўзброенага нападу на СССР".

Ня правы тыя таварышы, якія абмяжоўваюць разуменьне індустрыялізацыі „выключна вытварэньнем сродкаў вытворчасьці". Апошняе, бязумоўна, зьяўляецца асноўным, але ня ўсё. Для падняцьця ўдзельнай вагі прамысловасьці ўва ўсёй народнай гаспадарцы, бязумоўна, неабходна сыр'ёвая база. Ня будзем-жа вытвараць сродкаў вытворчасьці для апошніх. Гэта магчыма толькі ў тэорыі пакойнага рэфарміста-профэсара Туган-Бараноўскага. Ды і ў яго гэта магчыма толькі таму, што ён узяў за парушаемую аснову капіталістычную гаспадарку, для якой стымулам пашырэньня аднаўленьня служыць выключна прыбытак. Зусім іншае ў нас, дзе індустрыялізацыя павінна прывясьці „к пасіленьню соцыялістычнага будаўніцтва, а разам з гэтым, к павялічэньню удзельнай вагі рабочай клясы, паляпшэньню яе матар'яльнага становішча, дапамогі бядняцкім і садзейнічаньне серадняцкім пластом вёскі пры максімальным абмежаваньні эксплёататарскіх тэндэнцый кулака".

А калі індустрыялізацыя немагчыма бяз сыр'ёвай базы, то будзе правільна, калі ў разуменьне „індустрыялізацыя" залічым і сельскую гаспадарку.

Беларусь—краіна аграрная. У 1926-27 г. 17 процантаў усёй прадукцыі належала прамысловасьці. Астатнія 83 проц.—сельскай гаспадарцы. Але адсюль зусім ня сьледуе разумець, што лёзунг партыі аб „індустрыялізацыі" не пашыраецца на БССР Правы т. Галадзед, калі ён у сваёй прамове на пленуме ЦК КПБ 21 ліпеня г. г., паводле „Асноў пяцігадовага пэрспэктыўнага разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР" указаў, што ў БССР „не ставячы перад сабою задачы шырокага разьвіцьця прамысловасьці, якая вытварае сродкі вытворчасьці, мы павінны лічыць абсалютна неабходным вытворчасьці сродак спажываньня наогул і, галоўным чынам, тых галін прамысловасьці, якія базіруюцца на мясцовым сыр'і і павінны садзейнічаць індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі шляхам перапрацоўкі сельска-гаспадарчых прадуктаў і павялічэньня тым самым таварнасьці сельскай гаспадаркі БССР".

БССР, зьяўляючаяся часткай вялікага Савецкага Саюзу, мае таксама поўную магчымасьць ужыць лёзунг „індустрыялізацыі". Гэта ўжываньне яшчэ тым болей магчыма, што, апрачаналічча для гэтага эканамічных прадпасылак, БССР на дапамогу апошняй, як рэспубліцы адсталай ў гаспадарча-культурных адносінах, прыдзе СССР.

Увага КПБ к пытаньням індустрыялізацыі прыцягнута. Гэта сьцьвярджае тое шырокае прамысловае будаўніцтва, якое разгарнулася ў БССР:

Асінбуд, Дрэвааправоўчы камбінат і т. п. У бліжэйшым будучым будуць надрукаваны кантрольныя лічбы народнай гаспадаркі на 1927-28 гаспадарчы год. Яны з даволі патрэбнай рэльефнасьцю характэрызуюць узрост гаспадаркі БССР.

К жалю, гэтая ўвага недастаткова прыцягнута ў нізавых партыйных організацыях. Мы заўсёды прывыклі чуць аб індустрыялізацыі нагул, без дэталёвага растлумачэньня, што індустрыялізацыя азначае. Лічбы аб узросьце гаспадаркі бяруцца заўсёды ў „Саюзным маштабе“. Я гэтым ня маю на ўвазе прапагандыраваць „магчымасьць будаўніцтва соцыялізму ў адным горадзе Глупаве“. Так мысьліць апазыцыя вуснамі т. Радэка прадставіць лёзунг партыі „аб магчымасьці будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне“.

Партыя гаворыць аб магчымасьці будаўніцтва соцыялізму ў СССР, у краіне, якая займае шостую частку зямной кулі. Але гэта зусім не азначае, што хто-та аб гэтым павінен думаць і рашаць, а мы можам быць толькі назіральнікамі. Увага ўсёй партыйнай організацыі павінна быць прыцягнута к пытаньням будаўніцтва краіны.

Для малюнку прывяду адносіны раёнfamous партыйных організацый к пытаньням цэнзавай мейсцовай прамысловасьці. Апошняя ў эканоміцы БССР займае значнае мейсца. Яе прадукцыя складае 26 проц. у параўнаньні з продукцыяй прамысловасьці ВСНГБ. Значная лічба прадпрыемств мясцовай прамысловасьці знаходзіцца ў раёне. Мейсцовы рынак служыць для мейсцовай прамысловасьці базай здавальненьня сыр'ём і збыту прадукцыі. Паміж тым, рэдка можна сустрэць, што-б райком КПБ удзяляў-бы адпаведную ўвагу разьвіцьцю гэтых прадпрыемств.

Слаба ўдзяляецца ўвага пытаньням сельска-гаспадарчай каапэрацыі, мэліорацыі і землябудаўніцтва. Недастаткова ўцямлёна, што пытаньне разьвіцьця сельскай гаспадаркі цесна зьвязана з пытаньнямі індустрыялізацыі.

Побач з адсутнасьцю дастатковай ўвагі ў нізавых парторганізацыях к пытаньням „індустрыялізацыі“, некаторыя акруговыя парторганізацыі перагіналі палку ў другі бок. Пад „індустрыялізацыяй“ асобныя акругкомы разумелі, што трэба будаваць усё тое, што будаваць можна. Нават мала задумоўваліся аб сродках. „Дастанам, абы будуй“, такія дырэктывы былі дадзены асобнымі кіраўнікамі парторганізацыі (у пачатку 1926 г.).

Соцыялістычнае будаўніцтва магчыма толькі, як плянавае будаўніцтва. Праяўляючы паўнейшую ініцыятыву ў распрацоўцы пытаньняў, якая тычыцца індустрыялізацыі, неабходна, аднак, задумвацца заўсёды аб мэтазгоднасьці і магчымасьці ажыцьцяўленьня запроэктыраванага ня толькі з пункту гледжаньня свайго раёну альбо акругі, але й БССР, а ў неабходных выпадках усяго СССР цалкам

Праз плянавае будаўніцтва прыдам да соцыялізму.

## II.

Індустрыялізацыя краіны, разумеючае шырока разгорнутае будаўніцтва, патрабуе сур'ёзных капітальных затрат. Для пакрыцьця апошніх ёсьць тры шляхі: знадворныя і ўнутраныя пазыкі, адчужэньне сродкаў з прыватнага гаспадарчага сэктару і соцыялістычнае намнажэньне.

На скольві-небудзь значныя крэдыты з боку замежнага капіталу, у бліжэйшы пэрыяд, наўрад ці прыходзіцца разьлічваць. Ускладненьне міжнародных адносін з капіталістычнымі краінамі, разрыў дыплёматычных зносін Ангельшчыны з СССР яшчэ болей паслабляюць магчымасьці атрыманьня СССР пазык ад капіталістычных краін.

Другое становішча з унутранымі пазыкамі. Няўхільнае паляпшэньне матар'яльнага становішча шырокіх працоўных мас, нярушымасьць савец-

кага рубля і. затым, усё большы ўзрост даверра шырокіх мас к фінансавым мерапрыемствам савецкага ўраду значна павялічылі ўзрост унутрыдзяржаўных крэдытаў. Гэта паказваюць наступныя лічбы, характэрызіручыя ўзрост пазык у СССР.

| У 1922/23 г. | У 1923/24 г. | % узросту к папярэдняму году | У 1924/25 г. | % узросту к 22/23 г. | У 1925/26 г. | % узросту к 22/23 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 94.600.000 | 198.700.000 | +110 | 128.500.000 | +35,8 | 138,800,000 | +46,7 |

Калі адкінуць напружаны ўзрост рэалізацыі ў 1923-24 г., які тлумачыцца ўжываньнем у той час мер прымусовага і поўпрымусовага характару пры разьмяшчэньні пазык, то мы наглядаем няўхільны штогадовы іх узрост. У 1926-27 г. рэалізацыя пазык дасягае 300.000.000 руб.

Такім чынам мы бачым, што навокал справы дзяржаўнага крэдыту ўнутры краіны створана спрыяючая грамадзкая атмосфэра. Але гэта ня значыць, што мы ня можам яшчэ больш разьвіць дзяржаўны крэдыт. Згуртаваньне народных сродкаў у ашчэдных касах дасьць дадатковую магчымасьць выдзяліць сродкі для справы індустрыялізацыі. Партыйныя організацыі павінны садзейнічаць фінансавым органам у гэтай цяжкай працы.

Політыка ўраду й партыі ў адносінах адчужэньня сродкаў з прыватнага гаспадарчага сэктару, у якім галоўную ролю адыгрывае сялянства, базыруецца на прынцыпе прогрэсыўнага абкладаньня. Чым падаткаплательшчык багацей, тым больш сродкаў ад яго адчужаецца. З другога боку, аказваецца дапамога беднаце.

Апазыцыя патрабавала і патрабуе большага вымаганьня сродкаў з вёскі. Партыя ня магла згадзіцца з гэтымі прапановамі, бо яны пагражалі моцы союзу рабочай клясы з сялянствам і затармазілі-б далейшае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі.

Адной з асноўных крыніц фінансіраваньня індустрыялізацыі зьяўляецца ўнутрысоцыялістычнае намнажэньне. Разьмеры апошняга абмяжованы ня толькі аб'ектыўнымі, але й суб'ектыўнымі фактарамі. Калі адхіліць першыя не заўсёды магчыма, то апошнія, якія тычацца парадкаў і форм гаспадараньня, павінны быць адхілены ў што-б ня стала.

Барацьба за адхіленьне суб'ектыўных фактараў, абмяжоўваючых соцыялістычнае намнажэньне, была абгалошана партыяй, як напружаная, сыстэматычная, упартая барацьба за рэжым эканоміі.

Гэта кампанія мела мэтай, перш за ўсё, выжываньне нявытворчых выдаткаў у рознага роду дзяржаўных установ.

Гэта кампанія павінна была пасіліць барацьбу з злоўжываньнямі і незаконнымі відавочнымі і захованымі выдаткамі дзяржаўных сродкаў на асабовыя патрэбы, скарыстоўваньне службовага становішча ў інтарэсах асабовага абагаценьня там, дзе такія маюць мейсца.

Скарачэньне раздутых штатаў, ліквідацыя непатрэбных альбо мала неабходных аддзяленьняў і дапаможных організацый дзяржаўных установ, зьмяншэньне накладных выдаткаў шляхам болей эканамічнай затраты дзяржаўных сродкаў і ў галіне вытворчасьці і ў галіне зварачэньня,— усё гэта павінна праводзіцца ў мэтах дасягненьня „рэжыму эканоміі".

Якое значэньне Ленін прыдаваў пытаньням рэжыму эканоміі, то гэта відаць з таго, што ў артыкулу „Лепш менш, ды лепш", на пытаньне, якую тактыку нам варта прыняць „для таго, што-б забясьпечыць

наша існаваньне да наступнай вайсковай стычкі паміж контр-рэвалюцыйным імпэрыялістычным захадам і рэвалюцыйным нацыялістычным усходам, паміж цывілізаванейшымі дзяржавамі сьвету і дзяржавамі паўсходняму адстаўшымі", Ленін дапускае: „Мы павінны пастарацца збудаваць дзяржаву, у якой-бы рабочыя захавалі сваё кіраўніцтва над сялянамі, даверра сялян у адносінах к сабе і з вялічэзнай эканоміяй прагналі-б з сваіх грамадзкіх адносін усякія сьляды, якіх-бы то ні было зьлішкаў.

Мы павінны зьвясьці наш дзяржаўны апарат да максімальнай эканоміі. Мы павінны прагнаць з яго ўсе сьляды зьлішкаў, якіх у ім засталося так многа ад царскай Расеі, ад яе бюрократычна-капіталістычнага апарату".

Ленін ставіць пытаньне „ці будзе-ж гэта ўладарствам сялянскай абмяжованасьці"? і адказвае:

„Не. Калі мы захаваем за рабочай клясай кіраўніцтва над сялянствам, то мы атрымаем магчымасьць цаной вялічэзнай і вялічэзнай эканоміі гаспадаркі ў нашай дзяржаве дабіцца таго, што-б усякую малейшую ашчаду захаваць для разьвіцьця нашай буйнай машыннай індустрыі, для разьвіцьця электрафікацыі, гідраторфа, Волхаўбуда і інш.".

Праца Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі Беларусі над дзесяткамі ўстановаў, цэнтральных, мяйсцоых, прамысловых і гандлёвых дала свае вынікі. К жалю, кепская пастаноўка вучоту дасягненьняў ў галіне рэжыму эканоміі не дае магчымасьці ўстановіць тыя сумы ашчады, якія дасягнуты. Праца працягваецца па гэты час. Але разам з гэтым трэба адзначыць паслабленьне ўдзелу шырокіх пралетарскіх мас у гэтай важнай працы. Гэта сьведчыць хаця-б факт паслабленьня працы вытворчых камісій й нарад, паслаблена асьвятленьня пытаньне рэжыму эканоміі ў друку і т. п.

Пасіліць актыўны ўдзел шырокіх мас у барацьбе за рэжым эканоміі—чарговая задача дню.

Прафсаюзныя й партыйныя організацыі павінны ажывіць вытворчыя нарады і эканомкамісіі, прыдаўшы ім болей практычны, дзелавы характар, садзейнічаючы ажыцьцяўленьню ўсіх сколькі-небудзь карысных мерапрыемств па паляпшэньню вытворчасьці, вызначаных гэтымі нарадамі.

Жнівеньскі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) прызнаў неабходным абагуліць вопыт працы Рабоча-Сялянскай Інспэкцыі на ўвесь апарат кіраваньня краінай і гаспадаркай, „усклаўшы на кіраўнікоў установ, выканкомаў, прамысловых і гандлёвых прадпрыемств і транспорту, пад іх адказнасьцю дабіцца паўсемейсцовага распаўсюджаньня гэтага вопыту на кожную ўстанову савецкай краіны, правёўшы к 1927-28 гаспадарчаму году скарачэньне адмінстрацыйна-упраўленскіх выдаткаў супраць 1926-27 г. ня менш, чым на 20 проц.

Праведзенае за апошняе лета РСІ сумесна з установамі Беларусі скарачэньне апарату палягчае мажлівасьць поўнага ажыцьцяўленьня дырэктывы ЦК і ЦКК УсеКП(б). Але было-б няправільным, калі-б кіраўнікі ўстаноў прынялі паказаны процант за максімальны. Не. 20 проц. зьніжэньня адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў зьяўляецца мінімальнай лічбай, з якой варта выходзіць пры выпрацоўцы мерапрыемств к далейшаму скарачэньню выдаткаў. Гэта ўпаўне мажліва за лік скарачэньня штатаў, поўнага запаўненьня працоўнага дню служачых, скарачэньня камандыровак, зьездаў, канфэрэнцый і т. п.

## III.

Барацьба за нізкія дробныя прамысловыя цэны зьяўляецца ў сучасны момант важнейшай задачай нашай эканамічнай політыкі.

Чым вызвана неабходнасьць зьніжэньня прамысловых цэн?

Першая пастанова Савету Працы й Абароны аб зьніжэньні розьнічных цэн пасьледавала 2 ліпеня 1926 году. Гэтай пастановай прапанована было ўсім каапэратыўным і дзяржаўным гандлёвым арганізацыям зьнізіць к 1-му жнівеня п. г. розьнічныя цэны ў параўнаньні з майскім узроўнем, у сярэднім на 10 проц. Гэтая пастанова мела на ўвазе зьніжэньне розьнічных цэн на недастатковыя тавары, галоўным чынам, на тэкстыльныя фабрыкаты, металявыпрацоўкі, скура-абуткавыя тавары і будаўнічыя матар'ялы.

Асноўнай прачынай, якая прымусіла ўрад к дачы такой дырэктывы, гэта ўсё, што к гэтаму часу ножніцы паміж цэнамі на с.-г. прадукты і паказанымі прамтаварамі пачаліся расхіляцца. Стварылася пагроза нярушымасьці савецкага чырвонца.

Як вядома, у адносінах палітыкі зьніжэньня розьнічных цэн апазіцыя супроцьпастаўляла палітыку павышэньня адпускных цэн. Апошняе павінна была часткай служыць у якасьці крыніцы заслоны папулярнага „міліярду“ на правядзеньне зьверхіндустрыялізацыі. Партыя не магла згадзіцца з гэтакім „атрыманьнем лішняга міліярду“, бо павышэньне адпускных цэн, бязумоўна, пацягнула-б за сабою павышэньне розьнічных цэн. Апошняе-б прывяло к паказаным вышэй вынікам і затармазіла-б справу індустрыялізацыі.

Недазвальняючае выкананьне дырэктыў Савету Працы й Абароны ад 2 ліпеня 1926 году прымусіла партыю яшчэ раз прыпомніць прамысловым і гандлёвым організацыям аб неабходнасьці зьніжэньня розьнічных цэн на прамтавары. 16 лютага 1927 году пасьледавала другая пастанова Савету Працы й Абароны, прапануючая з усёй катэгарычнасьцю правясьці дальнейшае зьніжэньне цэн на 3 проц. к 1-му сакавіку г. г. і на 10 проц. к 1-му чэрвеня г. г.; па параўнаньню з узроўнем цэн у студзені 1927 г. зьніжэньне цэн павінна была быць ажыцьцёўлена за кошт прамысловасьці—5 процантаў і за кошт тавараправодзячай сеткі—5 процантаў. Як прамысловасьць, так і тавараправодзячая сетка павінны былі знайсьці рэсурсы для правядзеньня зьніжэньня цэн у эканоміі сваіх выдаткаў і зьмяншэньня сабекаштоўнасьці тавараў. Зьніжэньне цэн тавараправодзячай сеткай (каапэрацыяй) павінна была праводзіцца за кошт зьмяншэньня норм прыбытку, дзе яны былі занадта высокія.

У ліпені м-цы г. г. кіраўнічыя савецкія органы Беларусі, ЭКАНА, Дзяржплян і НКГандлю, падвялі вынікі зьніжэньня розьнічных цэн. Апошнія паказалі, што зьніжэньне цэн па ўсім прамтаварам у Беларусі дасягнула агулам 8 проц. Калі-ж ўзяць нуманклатуру тавараў, зьніжэньне цэн якіх роўна НКГандлю СССР, то зьніжэньне дасягнула 10 проц.

Дасягненьні ў галіне зьніжэньня цэн тым болей важны й тым, што прыватнік прымушан быў таксама пайсьці на зьніжэньне цэн. Апошняе па прыватнаму сэктару дасягае 6 проц. Гэта ў той час, калі да студзеня месяцу 1927 г. па прыватным гандлю мы мелі павышэньне цэн. Зьніжэньне цэн у прыватным сэктары дасягнута, дзякуючы конкурэнцыі каапэрацыі й шэрагу рэгулюючых мерапрыемств, праведзеных НК Гандлю. У прыватнасьці водпуск прыватніку тавару праводзіцца з абавязковай рэалізацыяй іх ня вышэй вызначанай цаны. Але разам з гэтым агульнымі дасягненьнямі ў галіне зьніжэньня розьнічных цэн трэба адзна-

чыць, што дырэктывы Савету Працы й Абароны аб крыніцах зьніжэньня цэн ня выкананы. Прамысловасьць ня зьнізіла паводле сабекаштоўнасьці, а таваралраводзячай сеткай, у прыватнасьці спажывецкая коопэрацыя у асноўным прывяла зьніжэньне цэн не за кошт прыбытку. Нізавая с.-г. каапэрацыя, працуючая ў многіх мейсцох ня з прыбыткам, а нават з уронам, правяла зьніжэньне цэн за кошт яшчэ большага павялічэньня разьмеру ўрону.

Прамысловасьцю ня выканана дырэктыва ўраду аб зьніжэньні адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў на 15 процантаў. Таваралраводзячая сетка мала альбо амаль што нічога не зрабіла ў мэтах зьмяншэньня накладных выдаткаў.

Кампанія па зьніжэньню цэн, бязумоўна, актывізавала масы. Лавачныя камісіі ў каапэрацыі, упаўнаважаныя ЦРК уцягваліся ў працу па зьніжэньню цэн. Але ўсё гэта недастаткова. Пытаньне аб зьніжэньні цэн—не „кампанейскае“ пытаньне. Правядзеньне яго ня можа быць абмяжована тыднямі, а нават і месяцамі. Жніўеньскі аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК УсеКП б) у „агульных дырэктывах па складаньню кантрольных лічбаў на 1927-28 г.“ паказаў:

„Застанаўляючыся на дасягненьнях прамысловасьці ў бягучым годзе, неабходна галоўнай задачай далейшага гаспадарчага разьвіцьця зрабіць барацьбу за зьніжэньне сабекаштоўнасьці прамысловай вытворчасьці, паставіўшы гэтую борацьбу ў цэнтр арганізаванага ўплыву партыі, прафэсыянальных організацый і гаспадарчых органаў. На працягу бліжэйшага году трэба дамагціся зьніжэньня сабекаштоўнасьці прамысловай продукцыі ня менш, як 5 проц. па параўнаньню з дасягнутым у 1926-27 г. узроўні. Дасягненьне мінімальных норм затрат сыр'я, апалу, рабочай сілы і г. д. на адзінку прамысловай продукцыі, у прыватнасьці шляхам устанаўленьня гранічных індэксаў затрат апалу, сыр'я і г. д. на адзінку продукцыі, правядзеньне цьвёрдай адказнасьці вызначаных асоб і арганізацыі за пасьпяховасьць зьніжэньня сабекаштоўнасьці і прыцягненьня к гэтай справе саміх рабочых мас,—павінна зьявіцца галоўнымі момантамі гэтай барацьбы за зьніжэньне сабекаштоўнасьці“.

Ітак, чарговай задачай працы парторганізацыі—гэта дасягненьне максімальнага зьніжэньня цэн. У асноўным зьніжэньне цэн на тавары павінна пайсьці за кошт зьніжэньня сабекаштоўнасьці.

І тут мы сустракаемся з неабходнасьцю пасіленьня актыўнасьці рабочых мас к гэтаму пытаньню. Далейшае пасіленьне актыўнасьці лавачных камісій каапэрацыі, якія павінны ня толькі наглядаць за працэсам зьніжэньня цэн, але й правяраць, за кошт чаго гэтае зьніжэньне йдзе. Трэба пракантраліраваць, паглядзець, ці ўсё зроблена для зьніжэньня сабекаштоўнасьці. Ці ня трэба што-небудзь яшчэ зрабіць для яе зьніжэньня? Профарганізацыі павінны ў што-б ня стала ажывіць працу вытворчых камісій й нарад. Друк, у асаблівасьці насьценныя газэты на прадпрыемствах і ўстановах, павінны адыграць у гэтай працы вялічэзную ролю. Барацьба за зьніжэньне павінна насіць сыстэматычны характар.

Але зьнізіць цэны мала. Мы ўступілі ў такую гаспадарчую паласу, калі масавы спажывец не здавальняецца таварам любой якасьці. У сьцьвярджэньне гэтага можна прывясьці тое, што, ня гледзячы на перажываемы краінай таварны голад, мела месца затаварваньне некаторых тавараў. Нізкія цэны й добрая якасьць тавару—гэтакае запатрабаваньне спажыўца. І па гэтаму поваду пленум ЦК і ЦКК сказаў: „Зьніжэньне сабекаштоўнасьці павінна йсьці адначасова з павышэньнем якасьці прадукцыі“.

Ня гледзячы на дасягнутыя вынікі ў галіне зьніжэньня цэн, вельмі часта можна чуць справядлівыя паказаньні з боку рабочых, што фактычна на рынку гэта зьніжэньне не адбілася. Гэта тлумачыцца проста. Зьніжэньне цэн павінна было тычыцца толькі прамысловых тавараў, зусім не закранаючы сельска-гаспадарчых прадуктаў. Урад ня мог пайсьці на зьніжэньне цэн сельска-гаспадарчых прадуктаў пры існаваўшых высокіх цэнах на прамтавары. Гэта-б скарыстаў прыватнік, у руках якога знаходзіцца пераважная частка с.-г. тавараў. Будучы пераможан на рынку прамтавараў, прыватнік імкнецца нажыць загублены капітальчык на с.-г. прадуктах. Пабольшыўся разрыў паміж цэнамі, па якім прадаваў вытворца сельска-гаспадарчых прадуктаў, і цэнамі, па якім спажывец гэтыя прадукты купляў Каштарыс-жа рабочага ў сваёй значнай частцы затрачваецца на набыцьцё с.-г. прадуктаў, цэны якіх ня зьніжаліся, а ў асобных выпадках нават павышаліся.

Асноўны выхад з ствары́ўшагася становішча—пасіліць ролю каапэрацыі на сельска-гаспадарчым рынку. Каапэрацыя павінна зрабіць усё магчымае, што-б спажывец атрымоўваў с.-г. прадукты сваечасова, у дастатковай колькасьці й добрай якасьці.

Па гэтаму поваду пленум ЦК і ЦКК, падкрэсьліваючы неабходнасьць далейшага зьніжэньня цэн на прамтавары, „зьвяртае ўвагу на неабходнасьць болей поўнага абхопу гароднінага і мяснога рынкаў канеапэрацыяй у мэтах барацьбы за зьніжэньне цэн на гэтыя важнейшыя прадукты рабочага каштарысу“. Эканомнарада і Дзяржплян далі ўжо ў гэтым дусе адпаведныя дырэктывы.

Калі адхінуцца ад становішча цэн на с.-г. прадукты, паслабляючых эфэктнасьць праведзенай кампаніі па зьніжэньню цэн, і зьлічыць ліпнёўскія цэны на крам, абутак, зялеза і другія прамысловыя тавары з студнёўскімі цэнамі на гэтыя-ж тавары, то вынікі зьніжэньня цэн будуць перад усімі відавочны.

Неабходна застанавіцца на адным вучастку гаспадарчага фронту, дзе зьніжэньне цэн амаль не датыркалася—гэта пабудаваньне будынкаў у прамысловасьці, электрабудаўніцтва, жыльлёвая, камунальная гаспадарка і таму падобныя будаваньні.

Гэта будаўніцтва шырока разгортваецца. На працягу бліжэйшага пяцёхгодзьдзя яны паглынуць у СССР вялічэзныя сумы, якія па папярэдніх разьліках прыбліжаюцца к 18 мільярдам 600 мільёнаў рублёў. Калі заставіць у баку вясковае жыльлёвае й гаспадарчае будаўніцтва, якое цячэ ў асноўным па-за дзяржаўным уплывам, то ўсё-ж застаецца 14 мільярдаў 500 мільёнаў рублёў.

Гэты вялічэзны вучастак гаспадарчага фронту патрабуе ад нас падвойнай к яму ўвагі, бо тут кожны процант перазатраты альбо эканоміі выражаецца ў паўтараста мільёнаў рублёў.

Паміж тым, на будаўнічым фронце ў нас далёка ня ўсё гладка. Калі нават ненармальна высокі індэкс прамтавараў перавышае ў 1½ разы даваенную сабекаштоўнасьць, то будаўнічы індэкс раўны 2,78.

Гэта патрабуе самай пільнай увагі, самага жорсткага нажыму на гэты вучастак з боку ўсіх дзяржаўных і грамадзкіх органаў.

Па дадзеным бюро нарміраваньня будаўніцтва пры Дзяржпляну СССР, сабекаштоўнасьць паказанага вышэй будаўніцтва складаецца ў наступным выглядзе:

| | |
|---|---|
| Рабочая сіла . . . . . | 32 проц. |
| Матар'ялы . . . . . . | 52 „ |
| Адм.-орг. і дапамож. выдаткі . . | 16 „ |
| Разам . . . | 100 проц. |

Такім чынам асноўным элемэнтам сабекаштоўнасьці будаўніцтва зьяўляецца рабочая сіла й матар'ялы. Што тычыцца выдатку на рабочую сілу, ня гледзячы на яе буйнае ўздаражэньне, то тут ня можа быць і размовы аб замаху на заваяваньні, прынесеныя Кастрычнікавай рэвалюцыяй (павышэньне заработку, соцыяльнае страхаваньне і інш.), наадварот, па дадзеным Дзяржпляну, разьлічваецца на працяг бліжэйшага пяцёхгодзьдзя далейшае павышэньне заработку на 27,5 проц. Тут магчыма толькі павышэньне вытворчасьці працы. Так, напрыклад, абсьледваньні Бюро нарміраваньня будаўніцтва паказалі, што рабочы працэс займае ў сярэднім каля 60 проц. працоўнага часу. Большая частка астатняга часу ідзе на прастоі з прычыны неарганізаванасьці працэсаў працы. Лепшая організацыя будаўнічай працы зможа значна зьмяншыць сабекаштоўнасьць рабочай сілы. Аднак, каштоўнасьць матар'ялаў і накладныя выдаткі змогуць і павінны быць значна зьменшаны.

Пленум ЦК і ЦКК(б) у „агульных дырэктывах па складаньню кантрольных лічбаў на 1927-28 г." у адносінах будаўнічых работ „адзначыў сур'ёзныя недахопы новага будаўніцтва (якія выражаюцца ў вялікім перавялічэньні каштарысных дапушчэньняў й высокай сабекаштоўнасьці—у выніку кепскай організацыі ўсёй будаўнічай справы, у прыватнасьці падрыхтоўчай працы да разгортваньня будаўніцтва, адсутнасьці мэханізацыі яго, нязьмерна вялікай сабекаштоўнасьці матар'ялаў пры нявысокай якасьці іх, частых праліках у праэктыроўках, нядбалых адносін да працы, нізкай вытворчасьці працы), аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК падкрэсьлівае, што кіраўнічым пачынаньнем новага будаўніцтва павінна зьяўляцца рашучае зьніжэньне сабекаштоўнасьці пры павышэньні якасьці прадукцыі на занава будуючыхся і пераабсталёўваючыхся прадпрыемствах.

Пры ўмовах буйнага капітальнага будаўніцтва рацыяналізацыя будаўнічай справы, скарачэньне накладных выдаткаў, станеньне будаўнічых матар'ялаў і ўсяго будаўніцтва—павінна зьявіцца першачарговай задачай, маючай аграмаднае агульнагаспадарчае значэньне. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК дапушчае дамагціся ў што-б ня стала сур'ёзных палепшаньняў ў гэтай галіне, і ўжо на працягу бліжэйшага году давясьці зьніжэньне індэксу будаўніцтва ня меней, чым на 15 процантаў па параўнаньню з бягучым гаспадарчым годам.

## IV.

Толькі на базе буйнай машыннай вытворчасьці, толькі на аснове канцэнтрацыі вытворчасьці зможа паўстаць ува ўсёй шырыні ідэя аб рацыяналізацыі?

У сваёй кнізе „Разьвіцьцё капіталізму ў Расеі" Ленін так характарызаваў організацыю працы ў трох асноўных формах прамысловасьці:

„Дробная таварная вытворчасьць характэрызуецца цалкам прымітыўнай ручной тэхнікай, якая заставалася нязьменнай амаль што з спрадвечных часоў. Прамысловец застаецца селянінам, пераніімаючы па традыцыі звычаі апрацоўкі сыр'я. Мануфактура ўводзіць падзяленьне працы, уносячыя сталыя зьмены ў працэс працы, пераварочваючыя селяніна ў мастэравога, у „дэталёвага рабочага". Але ручная вытворчасьць застаецца, і на яго базісе працэс спосабаў вытворчасьці нямінуема адрозьніваецца хворай працяглась цю.

Падзяленьне працы складваецца стыхійна, пераймаецца таксама па традыцыі, як і сялянская праца. Толькі буйная машынная індустрыя ўзновіць радыкальную зьмену, выкідае за край ручное мастацтва, зьмя-

## ЗЬМЕСТ.

Стар.

И. Абрамчук. На парозе напружнае працы . . . . . 3
М. Баран. На шляху да социялізму . . . . . 8
Сцэфановіч і Зярніцкі. Кіраўніцтва парт'ячэек і сувязь КК з вытворчымі нарадамі 21
А. Шалаховіч. Вынікі абсьледаваньня вытворчых нарад . . . 24
А. Курцік. Газэта, як організатар . . . . . . 30

### НА МЯСЦОХ.

В. Л. Нацыянальнае пытаньне і як яно вырашаецца на чыгунцы . . 37
Г. Малярэвіч. Комуніст у сельскай гаспадарцы . . . . . 39

### ГІСТПАРТ.

М. Шапавалаў. Партыя і Савецкая ўлада ў барацьбе з бандытызмам . 42
З Пастаноў ЦК КП(б) Беларусі . . . . . . . 47
У ЦКК КП(б)Беларусі . . . . . . . 52

няе вытворчасьць на новых рацыянальных пачынаньнях, сыстэматычна дапасоўваючы да вытворчасьці дадзеныя навукі“.

Але калі праблема рацыяналізацыі можа быць пастаўлена ў капіталістычнай грамадзе, дзе існуе невызначаемы разрыў паміж інтарэсамі прадпрыемцаў і інтарэсамі рабочых, то яна тым болей зможа быць разьвязана там, дзе пролетарыят будуе соцыялізм.

Супраўды, рацыяналізацыя, азначаючая абмяжованае разьвіцьцё вытворчых сіл, хіба можа быць ажыцьцёўлена на старых спосабах вытворчасьці?

Супраўды, хіба можам дасягнуць жадаемыя вынікі ў галіне зьніжэньня цэн, павышэньня вытворчасьці працы і гэтым самым паляпшэньня матар‘яльнага становішча шырокіх рабочых і сялянскіх мас бяз рацыяналізацыі? Бязумоўна, не.

У нашых умовах проблема рацыяналізацыі павінна быць пастаўлена ня толькі ў адносінах прамысловасьці, але й у адносінах сельскай гаспадаркі, тавараздвароту й кіраўніцтва.

Пастанова ЦК УсеКП па пытаньню рацыяналізацыі вытворчасьці ад 25 сакавіка гэтага году зрабіла, бязумоўна, вялічэзны ўплыў на пастаноўку рацыяналізатарскіх работ на прадпрыемствах.

Для малюнку дасягненьняў у галіне рацыяналізацыі вытворчасьці адзначу асобныя факты, апублікаваныя ў маскоўскім друку й малюючыя дасягненьні ў прамысловых галінах, маючых разьвіцьцё таксама й на Беларусі:

„У шкляной прамысловасьці і канвеерная сістэма ў першы раз ужыта Гусь-Хрустальным камбінатам.

На Курлоўскім і Сяргееўскім заводах уведзена безупыннае перадача паўфабрыката непасрэдна ў печ. Гэтая перадача раней вытваралася ручным спосабам, і пагэтаму выклікала буйныя выдаткі на рабочую сілу. Даволі паказаць, што 60 проц. коштоўнасьці гатовага складу падала на аплату выдаткаў па падачы паўфабрыкатаў у печ.

Гэтая новая сістэма скараціла выдаткі на рабочую сілу, прыкладна, на 60 проц.“

„У рыхтавальным аддзяленьні ф-кі „Парыская Камуна“ рацыяналізацыя вытворчасьці скараціла вытворчы цыкл, які раней вызначаўся ў 6-7 дзён, а цяпер паўтара дню.

У нас, на Беларусі, з прычыны зношанасьці асноўнага капіталу прадпрыемстваў, правядзеньне рацыяналізацыі ў большасьці выпадкаў стыкаецца з неабходнасьцю з пераабсталяваньнем існуючых альбо пабудовы новых прадпрыемств. Занава пабудаваны скураны завод у Менску, будуючыйся дрэваапрацоўчы камбінат у Бабруйску, намечаныя к пабудове новыя заводы—яны ўсе ўводзяць новую тэхніку. Будуючыйся „Асінбуд“ таксама прывядзе за сабою тэхнічную рэвалюцыю ў раёнах Віцебску, Магілеву й Воршы. Разам з тым патрэбна адзначыць, што й пры існуючым абсталяваньні можна многае зрабіць у мэтах рацыяналізацыі. Але ўсе дасягненьні ў галіне рацыяналізацыі вытворчасьці—толькі першыя нясьмелыя крокі. Наперадзе многа магчымасьцяй.

Вельмі часта для правядзеньня рацыяналізацыі зусім не патрэбны новыя затраты. Наадварот, намечаныя затраты можна скараціць. Для гэтага патрабуецца ўжываньне гаспадарчай ініцыятывы, плянавасьці й абмеркаванасьці ў працы.

Так, напрыклад, выдаткі на будаўнічыя матар‘ялы, якія складаюць 250 проц. даваеннага, падаюць рашучаму скарачэньню. Да гэтага часу ў нас карыстаюцца аднымі й тымі ж нормамі запасаў трываласьці збудаваньняў, ня лічачыся з рознымі прызначэньнямі будынку. Адсюль па-

вялічаныя запасы трываласьці і перавыдатак матар'ялаў і працы, даючы ў сярэднім падаражэньне ад 5 да 30 проц.

У Барысаве пабудавалі новы цагельны завод недалёка ўжо існуючага цагельнага заводу. Пры чым гэты новы завод стаіць у адлегласьці 12 вёрст ад чугункі.

Напэўна, рацыяналізатарскія мерапрыемствы даюць тым большыя посьпехі, чым больш зьяўляюцца папулярнымі яны ў вачох шырокай рабочай масы й чым больш відавочна для яе сувязь паміж гэтымі мерапрыемствамі і процэсам паляпшэньня матар'яльнага становішча рабочых.

Апошняе павінна быць асабліва падкрэсьлена. Ня выключана, што пры гэтым могуць мець месца асобныя скажэньні. Па гэтаму поваду жнівеньскі пленум ЦК і ЦКК УсеКП парашыў: „У адпаведнасьці з рэзалюцыяй політбюро неабходна распрацаваць канкрэтныя меры па ажыцьцяўленьню рацыяналізацыі і, у прыватнасьці, даць дакладныя дырэктывы па скарыстоўваньню аслабаняюшчайся рабочай сілы на пашыраючыхся і нанава будуючыхся прадпрыемствах. Пры гэтым варта прадбачыць і папярэдзіць магчымасьць такога скажэньня ў практычным правядзеньні політыкі рацыяналізацыі, якое мела месца ў першы пэрыяд ажыцьцяўленьня рэжыму экономіі“.

Што рацыяналізацыя, зьвязаная з індустрыялізацыяй, прывядзе к паляпшаньню матар'яльнага становішча рабочай клясы, сьцьвяджаюць пляны пэрспэктыўных пяцігадовых плянаў разьвіцьця народнай гаспадаркі СССР і ў прыватнасьці БССР, распрацоўваемых, Дзяржплянамі СССР і БССР.

На працягу пяцігодзьдзя лік адных вытворчых рабочых, занятых у дзяржаўнай прамысловасьці, расьце па пляну на 464,200 чалавек, іначай кажучы, на 19,8 проц. У БССР, дзе з прычыны адсталасьці прамысловасьці прадпалагаецца большы тэмп разьвіцьця прамысловасьці, а таксама з прычыны таго, што беларуская прамысловасьць, па сваёй істоце, болей дробная й працаёмістая, чым уся прамысловасьць па Саюзу, у сярэднім узрост рабочых намячаецца з 30,415 у 25/26 г. да 43,500 у 30/31 г., г. зн. павялічэньне на 44 проц.

Адначасова з узростам колькасьці рабочых прадпалагаецца ўзрост зарплаты на працягу гэтых 5-ці год каля 30 проц.

Рабочая маса павінна знаць, што рацыяналізацыя ў СССР адрозьніваецца ад правадзімай рацыяналізацыі ў капіталістычных краінах. У апошніх рацыяналізацыя праводзіцца за кошт рабочых, у СССР—на карысьць рабочай клясы.

Пытаньні рацыяналізацыі вытворчасьці павінны быць перанесены з ведамсьцьвеных габінэтаў на шырокае масавае абгаварваньне. Неабходна яшчэ й яшчэ раз памятаць, што рацыяналізатарскую працу немагчыма праводзіць іначай, як шырокую масавую працу на пачынаньнях згоджанасьці яе з матар'яльнымі й культурнымі інтарэсамі рабочых. Пры гэтым неабходна мець на ўвазе тое важнае значэньне для жыцьця большасьці нашых прадпрыемств, якія маюць так званыя „дробязі“ рацыяналізацыі, захапляючыя асобныя вучасткі, галіны й зьвеньня фабрычназаводзкай гаспадаркі.

Як паказана вышэй, пытаньні разьвіцьця сельскай гаспадаркі цесна зьвязаны з пытаньнямі індустрыялізацыі. Упаўне зразумела, што вядзеньне трохпалёвай запашкі, праца з драўлянай сахой і другія экстэнсіўныя формы ў сельскай гаспадарцы несумяшчальны з разуменьнем „індустрыялізацыя“. І ў сельскую гаспадарку неабходна, як-бы там ня было, увясьці рацыяналізатарскія мэтады вядзеньня гаспадаркі.

Не застанаўліваючыся на неабходнасьці прысьпяшэньня правядзеньня землябудаўніцтва, павялічэньня годных для апрацоўкі зямель шляхам

мэліарацыі й шэрагу другіх момантаў, упаўне вядомых усёй парторганізацыі, варта усё-ж адзначыць, што й правядзеньне гэтых мераприемств можна й павінна быць рацыяналізавана.

Тым болей рацыяналізатарскія мэтады павінны быць дапасаваны, калі маюць на ўвазе інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі, павялічэньне тэхнічных культур, жывёлагадоўлі і інш.

Рацыяналізацыя апрацоўкі ў сельскай гаспадарцы таксама цягне за сабою ўвядзеньне новай тэхнікі. Апошняе заключаецца ў трактарах, сеялках, арх, малатарань і інш. Апошнімі штогадова абагачаюцца саўгасы й колгасы.

Але й вёсцы, дзе гаспадарка распылена, машынізацыя сельскай гаспадаркі сустракае цяжкасьці, якіх нельга перамагчы. Асобныя гаспадаркі, а ў прыватнасьці бядняцкія і серадняцкія ня здолеюць аўладаць трактарам. Набыцьцё дробных машын, як сеялак, арх і др., якія скарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы ў асобныя пэрыяды, некарысна для асобных гаспадарак. Такім чынам пытаньні рацыяналізацыі ў сельскай гаспадарцы пацягнуць за сабою колектывізацыю.

Неабходна паказаць на важнае значэньне дапушчэньня хімічных угнаеньняў у земляробстве. Згодна пастановы Савету Працы й Абароны, каштоўнасьць іх значна патанела. Варта прапагандыраваць іх большае распаўсюджваньне ў вёсцы. К гэтай працы павінны быць прыцягнуты аграномічныя сілы, якія павінны паказаць на вопыце ўсю карыснасьць дапушчэньня хімічных угнаеньняў.

Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК адзначыў, што „рацыяналізацыя тавараправодзячай сістэмы й максімальнае зьмяншэньне выдаткаў па таваразвароту набывае ў цяперашні час (помеж з зьніжэньнем сабекоштоўнасьці) рашучае значэньне пры неабходным і наперад правядзеньні ў жыцьцё політыкі зьніжэньня цэн на промтавары“.

Шлях тавару ад вытворцы к спажыўцы абышлося дорага й даходзіла ў сярэднім да 35 проц. к адпускной цане на фабрыцы. У тавараправодзячай сетцы ёсьць усе магчымасьці к патаненьню яе паслуг, за лік зьмяншэньня накладных выдаткаў, у прыватнасьці шляхам рацыяналізацыі сеткі.

У гэтых мэтах уводзіцца новая сістэма прахаджэньня тавараў ад фабрыкі да нізавой коопэрацыйнай ячэйкі. Замест 3-4 інстанцый, якія да гэтага часу праходзіць тавар, зараз устанаўліваецца непасрэдная перавозка тавараў з фабрыкі ў нізавую коопэрацыйную ячэйку. Гэта новая сістэма павінна значна зьнізіць накладныя выдаткі.

Адначасова праводзіцца праца па ліквідацыі непатрэбных гандлёвых прадстаўніцтв розных сіндыкатаў. Іх праца у многіх мейсцох можа быць выканана коопэрацыяй.

Праца па рацыяналізацыі тавараправодзячай сеткі працягваецца.

Асаблівая ўвага павінна быць зьвярнута на рацыяналізацыю кіраўніцтва.

Трэба прызнацца, што ў адносінах мэтадаў працы савецкага апарату, да гэтага часу, многія былі кансэрватыўнымі, чым у другіх галінах. Баяцца навін. Проста чапляюцца за старое. Упаўне правільны й зараз словы Леніна, сказаныя ім у артыкулу „Аб адзіным гаспадарчым пляне“: „Цяжкае ўражаньне робяць артыкулы і размовы на гэту тэму. Пусьцейшая гаворка. Літаратуршчына. Нежаданьне лічыцца з тым, што створана ў гэтай галіне дзелавога й вывучаць яго. Разважаньне ў доўгіх пяці артыкулах аб тым, як трэба падыйсьці к вывучэньню, замест вывучэньня дадзеных і фактаў...

... Услухайцеся ў прамовы „адказных“ таварышоў. Тыя-ж карэнныя недахопы... Скучнейшая схолястыка, скрозь да балтаўні аб законе

цэпнай сувязі і т. п. схолястыке, то літаратурская, то бюрократычная, а жывой справы няма.

Горш таго. Высокамоўная бюрократычная няўвага к той жывой справе, якую трэба працягваць.

Зноў і зноў пусьцейшая „вытворчасьць тэзісаў“ альбо высасваньне з пальца лёзунгаў і проэктаў замест уважлівага і дэталёвага азнаямленьня з нашым уласным практычным вопытам“.

Працаўнікі РСІ Беларусі, праводзіўшыя ў сакавіку-чэрвені г. г. вывучэньне апарату, замест дапамогі, у некаторых мейсцох, з боку асобных таварышоў сустракалі, калі не адпор, то абыякі прыём. Бывалі выпадкі, калі ячэйка і эканомкамісіі ў сваіх прапановах па рацыяналізацыі апарату йшлі значна далей адміністрацыі, выступаючы супроць апошняй ў яе жаданьні захаваць дарагі і агромністы апарат. Бывалі і выпадкі, калі эканомкамісіі й ячэйка імкнуліся як-бы там ня было захаваць існуючую форму працы.

Дзякуючы падтрыманьню большасьці кіраўнікоў устаноў і шырокіх мас рабочых і служачых у Беларусі, як і ўва ўсім СССР, удалося зрабіць вялікую працу па рацыяналізацыі савецкага апарату. Ліквідаваны 4 акруговых цэнтры, узбуйнены некаторыя райёны, уведзена ў многіх установах функцыянальная сістэма, даючая магчымасьць непасрэдных зносін паміж кіраўніком установы й выканаўцам працы. Па дадзеным ЦКК-РСІ Беларусі скарочана па дзяржаўнаму й мясцоваму каштарысам 1866 чалавек, альбо 33 проц. меўшага штатнага складу. Гэта скарачэньне павінна даць значную эканомію, якая пойдзе на індустрыялізацыю.

Рацыяналізацыя апарату, апрача патаненьня яго каштоўнасьці, павінна зьменшыць бюрократызм, пануючы да гэтага часу ў савецкім апараце.

Пленум ЦК і ЦКК УсеКП даў дырэктыву аб сістэматычным працягненьні працы па рацыяналізацыі апарату, бо „задача паляпшэньня й перапрацоўкі ўсёй нашай савецкай сістэмы становіцца галоўнейшай і важнейшай задачай партыі ў сучасных умовах“.

У працу па рацыяналізацыі павінна быць уцягнута ўся актыўная маса служачых. Пры гэтым неабходна шырока растлумачыць тыя дырэктывы партыі, паказваючыя шляхі бесхваробнай ліквідацыі беспрацоўя, зьяўляючайся вынікам рацыяналізацыі савецкага апарату. Шляхі гэтыя наступныя: перакваліфіцыраванца ў мэтах прыстасаваньня да працы ў вытворчасці, на культурна-асьветным фронце і г. д.

Упаўне зразумела, што, калі гаворым аб рацыяналізацыі савецкага апарату, маем на ўвазе й гаспадарчы апарат трэстаў і другія гаспадарчыя ўстановы.

Найбольш слабым зьвяном усёй нашай дзяржаўнай машыны зьяўляецца кантроль і праверка выкананьня. Пленум ЦК і ЦКК паказаў, „што без сістэматычнага і організованага кантролю за ажыцьцяўленьнем партыйных пастаноў і савецкіх законаў і без забесьпячэньня сапраўднага давядзеньня партыйных і савецкіх пастаноў да канца мы ня зможам дабіцца сапраўднага паляпшэньня працы ўсяго дзяржаўнага апарату“.

Так, вялікія цяжкасьці стаяць перад намі, для таго, што-б перасесьці „з каня сялянскага, мужыцкага, абяднелага, з каня эканоміі разьлічанага на разбураную сялянскую краіну, на каня, якога шукае і ня можа ня шукаць для сябе пролетарыят, на каня буйнай конскай індустрыі, электрафікацыі, Волхаўбуда і г. д.“

Але хіба варта нам пужацца гэтых цяжкасьцяй? Хіба ня сьведчаць тыя дасягненьні, якія мы маем за апошнія гады, што мы, вынесеныя гісторыяй на авансцэну міравой барацьбы працы з капіталам—у сіле перамагчы ўсе цяжкасьці організацыі новага строю.

Сцэфановіч і Зярніцкі.

# Кіраўніцтва парт'ячэек і сувязь КК з вытворчымі камісіямі.

*По абсьледваньню ЦКК КП(б)Б.*

Мінулы асеньня-зімовы пэрыяд работы партарганізацыяў характарызуецца далейшым палепшаньнем кіраўніцтва з боку парт'ячэек на прадпрыемствах работай вытворчых камісіяў.

Гэта пацьвярджаецца раней за ўсё фактам узмацненьня парт'ядра камісіяў, які даходзіць да 25-30 проц. агульнага складу. Побач з колькасным павялічэньнем партыйцаў павысіўся ў параўнаньні з ранейшым пэрыядам і ўдзел іх у практычнай рабоце вытворчых камісіяў і нарад. У паасобных ячэйках мы маем узмацненьне і жывога кіраўнінтва: заслухоўваньне дакладаў фракцыі фабзавкому і паасобных партыйцаў на Бюро і агульных сходах ячэек, пастаноўка паасобных вытворчых пытаньняў на адчыненых сходах ячэек з прыцягненьнем беспартыйных рабочых.

Маецца вялікая ўвязка паміж ячэйкай, фабкомам і адміністрацыяй па пытаньням работы вытворчых камісіяў.

Адносна сувязі Кантрольных Камісіяў, як станоўчыя моманты, трэба адзначыць—вытворанае шэрагам АКК прымацаваньне членаў КК да найбольш буйных вытворчых камісіяў (Менск, Віцебск, Гомель). Акрамя таго, Кантрольныя Камісіі прыймаюць удзел у правядзеньні інструкцыйных нарад па рабоце вытворчых камісіяў, а таксама ў абсьледваньнях і пастаноўцы затым дакладаў на прафсаюзных сходах, канфэрэнцыях і зьездах.

Аднак, ня гледзячы на пэрыядычна праводзячыяся абсьледваньні вытворчых камісяў—указаньні па пытаньням парткіраўніцтва не даволі праламляюцца,—і ў гэтай галіне прыходзіцца канстантаваць яшчэ і іншыя недахопы.

Трэба прызнаць, што ў значным ліку ячэек няма яшчэ неабходнай зацікаўленасьці ў рабоце вытворчых камісіяў. Як вынік гэтага—дапамога ў сэнсе жывога кіраўніцтва і правільнага напрамку работы вытворчых камісіяў яшчэ не наглядаецца. Вось, напрыклад, вынятка з абсьледваньня па ф-цы „Днепр“ (Рэчыца):

„Кіраўніцтва ячэйкі заключаецца ў прысутнасьці (не заўсёды) сакратара ячэйкі на пасяджэньнях вытворчай камісіі і вытв. нарад, і адзін раз за справаздачны пэрыяд быў заслуханы даклад вытворчай камісіі на бюро ячэйкі“.

На заводзе „Интернационал“ (Рэчыца) становішча некалькі лепш:

„На бюро ячэйкі былі заслуханы наступныя даклады: справаздача вытворчай камісіі, справаздача аб становішчы вінтавога аддзяленьня. справаздача аб рабоце фракцыі вытворчай камісіі аб выкананьні дырэктыў Бюро. Парт'ячэйка ў цэлым у абгаварэньні пытаньняў ня ўдзельнічала, так як даклады ставіліся толькі на пасяджэньнях Бюро.

Але і тут адзначаецца, што „*практычнай штодзённай дапамогі рабоце вытворчай камісіі* як у самым рэагіраваньні на пастановы камісіі, так і ў удзеле ў самой прапрацоўцы пытаньняў нарадай і камісіяй—ячэйкай зварочвалася мала ўвагі“.

Гэтак, прыкладна, справа і з ажыцьцяўленьнем парткіраўніцтва і ў шэразе іншых акруг (Бабруйск, Ворша і інш.).

Яскравым узорам недастатковай зацікаўленасьці некаторых ячэек зьяўляецца хаця-б факт прызначэньня розных пасяджэньняў у дні склі-каньня вытворчых нарад і камісіяў (Мазыр).

У шэразе выпадкаў з боку паасобных партыйцаў і комсамольцаў няма дастатковай зацікаўленасьці ў адносінах да ўдзелу ў рабоце вы-творчых нарад—слаба зьяўляюцца на пасяджэньні вытворчых камісіяў і вытворчых нарад і ня прыймаюць актыўнага ўдзелу ў абгавараньні пы-таньняў (Магілеў, Ворша, Полацк). Як зьявішча гэтага-ж парадку, трэба адзначыць і факт значнага памяншэньня ўдзельнікаў вытворчых нарад як партыйцаў, так і беспартыйных (Віцебск, Белдзяржметпром № 3). У 1926 г. у сярэднім удзельнічала ў вытворчых нарадах 59 чал., з іх чле-наў КП(б)Б—16, КСМ—8, што складае 64 проц. да агульнага ліку ра-бочых, між тым як у 1927 г. удзельнічала ў сярэднім 37 чал., з іх чле-наў КП(б)Б—13, КСМ—4, што складае 33 проц. да агульнага ліку рабочых.

Па некаторых з абсьледваных ячэек адзначаецца слабое звароч-ваньне ўвагі—уцягненьню адміністрацыі ў работу вытворчых нарад, зрыў пасяджэньняў з-за няяўкі адміністратара для дакладу, затрыманьне ад-казаў па запытаньням аб выкананьні пастаноў вытворчых камісіі і нарад (Дуброўка, яч. Цягі МББ), а ў другім мейсцы (Рэчыца, „Красноборск. Лесозавод) Завкому прыходзілася нават браць падпіску ад адміністрацыі аб абавязковай яўцы на вытворчую нараду.

Прымацаваныя члены КК слаба зьвязаліся з вытворчымі камісіямі і ня прыймаюць удзелу ў іх рабоце (Бабруйск, Менск).

З другога боку, Завкомы і парт'ячэйкі не прыбягалі да дапамогі КК-РСІ, асабліва пры невыкананьні адміністрацыяй пастаноў вытворчых нарад. Так, напрыклад, на заводзе „Труд“ (Мазыр) патрабавалася ўста-ноўка 6-ці ўпорнага варстату; адміністрацыя ўпачатку адмаўлялася, а потым сама прызнала неабходнасьць гэтага мерапрыемства.

Для ўзмацненьня кіраўніцтва з боку ячэек КП(б)Б працай ВК і нарад,—Бюро ячэйкі ў плянах сваёй працы павінны ўключаць сыстэма-тычныя справаздачы фракцыі ФЗК, выдзяляючы паасобна пытаньні камі-сіяў і нарад з заслухоўваньнем іх ня менш аднаго разу ў 3 месяцы, а таксама ставячы гэткія-ж даклады на агульных адчыненых сходах ячэйкі.

Фракцыі ФЗК трэба весьці сталы вучот наведваньняў партыйцамі вытворчых камісіяў і нарад і праяўленьне на іх актыўнасьці.

Як адно з спосабаў для стварэньня грамадзкай думкі вакол работы вытв. камісіі—трэба наладзіць сталае кіраўніцтва рэдкалегіі насьценных газэт шляхам высьвятленьня паасобных момантаў працы ВК і нарад.

З мэтай большага ажыцьцяўленьня практычнай сувязі КК-РСІ з ВК,—лічыць неабходным, каб прымацаваныя члены КК прымалі большы ўдзел у рабоце вытворчых камісій, а на пасяджэньнях КК заслухоўваць справа-здачы іх (выдзеленых) аб праробленай імі працы.

Дапамагаць вытворчым саюзам у наладжваньні іх працы ў бок плянавасьці і сыстэматычнай увязкі гэтай працы праз адміністрацыю заводаў, уцягваючы шырокія рабочыя масы і тэхнічны склад з мэтай паляпшэньня і патаненьня прадукцыі і павялічэньня вытворчасьці.

Прыцягваньне вытворчых камісіяў да работы КК-РСІ шляхам да-ручэньня асабістых даручэньняў як пазаплянавых, так і ўключаных у плян КК-РСІ работ у парадку садзейнічаньня ВК у іх, а, з другога боку, ячэйкі павінны зьвяртацца ў патрэбных выпадках за дапамогай КК-РСІ.

Аб выніках праведзеных абсьледваньняў па данаму прадпрыемству побач з прыцягваньнем у іх ВК—ставіць даклады РСІ на вытворчых нарадах.

Для большай увязкі пытаньняў сувязі і кіраўніцтва вытворчых камісіяў з боку профорганаў і КК неабходна кантрольным органам гэткія пытаньні ўзгадняць і праводзіць праз прафэсыянальныя органы.

У заключэньне адзначым яшчэ неабходнасьць абавязковага асьвятленьня на вытворчых нарадах вынікаў абсьледваньняў, у прыватнасьці апошняга абсьледваньня ЦСПСБ і ЦКК, так як вельмі часта бывае, што вынікі абсьледваньняў і прынятыя кіруючымі органамі прапановы не даходзяць да нізавых органаў (напрыклад, вывады і прапановы леташняга абсьледваньня).

А. Шалаховіч.

# Вынікі абсьледаваньня вытворчых нарад.

У траўні—ліпені ЦСПСБ з удзелам ЦКК-РСІ было праведзена выбарачнае абсьледаваньне вытворчых нарад на 35 прадпрыемствах, у тым ліку і на такіх буйных прадпрыемствах, як фабрыка „Днепр"— 1.445 рабочых у Рэчыцы, папяровая фабрыка „Герой труда" у Гомелі— 1.368 раб., служба цягі МББ ч. ш. у Менску—900 рабочых, завод № 3 Белдзяржмэтпрома 830 рабочых у Віцебску і інш.

З часу абсьледаваньня ў мінулым годзе прайшло каля 12—13 месяцаў.

Такі вялікі прасьцяг паміж абсьледваньнямі, бязумоўна, не азначае, што з цягам гэтага часу саюзныя організацыі не зварочвалі ўвагі рабоце вытворчых нарад. Гэта азначае, што ў сваім кіраўніцтве работай вытворчых нарад проф. організацыі Беларусі перайшлі ад мэтадаў кампанійскага падштурхоўваньня да сур'ёзнага, глыбокага плянавага кіраўніцтва вытворчымі нарадамі. Работа вытворчых нарад, як важнейшая форма масавай экономічнай работы саюзаў на прадпрыемствах, павінна праводзіцца плянава, набыць ня ўдарны, кампанійскі характар, а, зноў-жа падкрэсьліваем—характар *плянавы*. І менавіта таму, што задачы прамысловасьці ў галіне рацыяналізацыі і плянавага разьвіцьця вымагаюць ад вытворчых нарад плянавай, сур'ёзнай і прадуманай работы.

Абсьледваньне мела сваёю мэтаю, поруч з выяўленьнем агульных недахопаў і дасягненьняў у рабоце вытворчых нарад, даць адказ на наступныя пытаньні:

Ці здолелі вытворчыя нарады выявіць, стварыць і згуртаваць кадр вытворчага актыву на прадпрыемствах? Ці здолелі праз іх саюзныя органы глыбей пранікнуць у вытворчасьць і даць практычны вопыт і знаньне рабочай масе ў справе аднаўленьня і далейшага разьвіцьця нашае сацыялістычнае гаспадаркі?

Атрыманьне дадатнага адказу на гэтыя пытаньні шляхам праверкі практычнай работы вытворчых нарад стала адной з цэнтральных задач абсьледваньня, таму што за апошні час паявіліся асобныя скэптычныя настроі т. т., якія кажуць, што вытворчыя нарады перажываюць нейкі крызіс, што іх работа глохне і замірае.

Вынікі абсьледаваньня даюць пэўны дадатны адказ на пастаўленыя пытаньні. Гэта асабліва каштоўна таму, што агульная міжнародная абстаноўка вымагае ад рабочае клясы максымальнае ўвагі пытаньням гаспадарчага будаўніцтва.

Дэтальнае азнаямленьне і профсаюзнага актыву з вынікамі праведзенага абсьледаваньня неабходна для таго, каб злучанымі патугамі зьнішчыць адзначаныя ў працы вытворчых нарад недахопы, палепшыць і ўзмацніць кіраўніцтва іх працай, асабліва з боку партыйных ячэек і фабзавместкомаў і гэтым самым замацаваць дасягненьні, якія ўжо маюцца.

Неабходна агаварыць, што ня ўзмоцненая праца вучоту, мейсцамі поўнае яго адсутнічаньне, не даюць мажлівасьці зрабіць шэрагу лічбовых

сапастаўленьняў з данымі мінулагодняга абсьледаваньня, але тыя весткі, якія маюцца ўжо, дазваляюць гаварыць аб наліччы многіх дасягненьняў.

**Дасягненьні ў рабоце вытворчых нарад.**

Узросшая цікаўнасьць рабочых да працы вытворчых нарад у нас прыкмячаецца. Аб гэтым сьведчаць нам лічбы значнага ахвату рабочых, якія даходзяць у сярэднім па абсьледаваным прадпрыемствам да 20—21 проц. усіх працуючых. Гэты процант наведваньня калыбліцца ад 7 да 5 проц. на асобных прадпрыемствах. Пры аналізе гэтых калыбаньняў выяўляецца, што процант наведваньня на буйных прадпрыемствах значна ніжэйшы, чым на менш буйных.

| | Параўнаўчая колькасьць удзельнікаў усіх занятых на прадпрыемстве: |
|---|---|
| Шкляны завод „Ільліч" у Магілеве . . | 40—13 проц. |
| Завод „Інтэрнацыянал" у Рэчыцы . . | 43—18 „ |
| „ „Кр. Бор" „ . . | 29—33 „ |
| Фабрыка „Днепр" „ . . | 181—12 „ |
| Завод „Труды" ў Полацку . . . | 77—10 „ |
| Фанерны завод у Бабруйску . . . | 70—50 „ |
| Завод імя Адзярыха . . . . | 26—50 „ |
| Лесазавод № 2 . . . . . | 55 „ |
| Ф-ка „Профінтэрн" у Барысаве . , | 15— 7 „ |
| Завод імя Леніна . . . . . | 39—35 „ |
| „ „Комінтэрн" . . . . | 30— 7 „ |
| „ „Пролетары" Копысь . . . | 8 „ |
| Якаўлевіцк. суконная . . . . | 26 „ |
| **Манафакт.** | |
| Дняпроўская манафакт. . . . . | 16 „ |
| Завод „Труд" Мазыр . . . . | 23 „ |
| „ „Звезда" „ . . . . | 14—15 „ |
| 2-гі дзяржскурзавод у Менску. . . | 25 „ |
| Эльвод у Менску . . . . . | 25 „ |

Гэта тлумачыцца слабасьцю работы цэхавых вытворчых нарад на буйных прадпрыемствах, якія прыцягваюць вялікі лік рабочых. Напрыклад, на сярнічковай фабрыцы „Днепр" наведваньне агульназаводзкой вытворчай нарады дасягае 12 проц. у той час, калі наведваньне цэхавых нарад на заводзе „Двигатель Революции" даходзіць да 80-90 проц. На папяровай фабрыцы „Герой Труда"—1.368 раб. Наведваньне цэхавых нарад калыбаецца да 29 проц. па вытворчаму цэху, да 69 проц.—па мэханічнаму цэху.

Відочна палепшыўся ўдзел кваліфікаваных груп рабочых,—адсюль лепшая, больш глыбокая прапрацоўка пытаньняў і больш канкрэтныя прапановы.

На асобных прадпрыемствах створаны, праўда, невялікі кадр вытворчага актыву, які стала наведвае і цікавіцца працаў вытворчых нарад. На шкляным заводзе „Труды" маецца група сталага актыву ў 20 чалавек, ін. каж., каля 25 проц. з ліку тых, хто наведваецца. Такія-ж невялічкія групы адзначаны абсьледваньнем і на некаторых другіх прадпрыемствах.

Па матар'ялах абсьледаваньня можна адзначыць, што ёсьць відочнае палепшаньне ў адносінах адміністрацыі да вытворчых нарад і большае ўцягненьне ў іх работу інжанэрна-тэхнічнага пэрсаналу. Гэта дасягненьне зьяўляецца ў вядомай ступені вынікам ствараўшайся грамадзкай

думкі, організаваных мерапрыемстваў саюзных органаў, цьвёрдых і ясных дырэктыў партыі і кіруючых гаспад. органаў, а, з другога боку— палепшаньне і ўглубленьне працы вытворчых нарад пераходам да больш сур'ёзных вытворчых пытаньняў і дзелавым канкрэтным характарам іх вырашэньня.

Фактам, які пацьвярджае гэты вывад, зьяўляецца ўзросшы процант выконваньня пастаноў нарад. Так, на заводзе „Інтэрнацыянал" выканана 74 проц. прапаноў.

| | | |
|---|---|---|
| Фабрыка „Днепр" | 78 | проц прапаноў |
| „Дняпр. манафакт." | 64 | „ „ |
| „Двигатель Революции" | 80 | „ „ |
| 2-гі Дзяржскурзавод | 68 | „ „ |
| Добруская пап. ф-ка | 76 | „ „ |

Значная часьціна прапаноў знаходзілася к моманту абсьледаваньня ў працэсе выкананьня. Прыкладна такія-ж весткі (лічбы) аб выконваньні прапаноў і на другіх прадпрыемствах. Адзначаючы агульнае паляпшэньне ў адносінах адміністрацыі, нельга абыйсьці асобныя факты зусім недапусьцімых адносін да вытворчых нарад.

Такія факты мы маем на акуляравай фабрыцы ў Віцебску, дзе загадч. фабрыкай амаль ня прысутнічае на вытворчай нарадзе (гэта адносіцца не да цяперашняй, а да мінулай адміністрацыі).

На заводзе „Красный Бор" у Рэчыцы, дзе вытворчая камісія была прымушана браць падпіску ад адміністрацыі аб абавязковым яе ўдзеле на вытворчых нарадах. Нешта падобнае было і на другіх прадпрыемствах. Такія факты павінны быць перададзены гласнасьці і падвяргнуцца грамадзкаму суду. Іх трэба бяз жаласьці бічаваць і зьнішчаць з нашай практыкі.

Да асноўных дасягненьняў варта аднесьці значнае паляпшэньне кіраўніцтва саюзных органаў, ЦП саюзаў і Акрааддзяленьняў, што, на жаль, нельга сказаць аб фабзавкомах, паколькі ад іх мы павінны вымагаць непасрэднага і штодзеннага кіраўніцтва вытворчымі нарадамі. Таксама неабходна адзначыць правільнае організацыйнае пабудовы вытворчых камісіяў і нарад.

Гэтых вывадаў даволі для таго, каб даказаць, наколькі неправы нашы скэптыкі, наколькі неабаснаваны іх гутаркі аб нейкім там крызісе і г. д., але, не абмяжоўваючыся гэтым, мы лічым неабходным кораценька спыніцца і на характары працы вытворчых нарад і аб тым значэньні, якое іх работа набывае ў справе рацыяналізацыі вытворчасьці і палепшаньня агульнай работы прадпрыемства.

Раней усяго трэба адзначыць, што няяснасьць, якая наглядалася раней у пытаньнях компэтэнцыі вытворчых нарад, зараз амаль зьнішчана. Пытаньні, якія выносяцца на абгаварваньне вытворчых нарад, маюць непасрэднае дачыненьне да вытворчасьці і ўваходзяць у кола пытаньняў, якія належаць да абгаварваньня. Самае-ж галоўнае і важнае складаецца ў тым, што вытворчыя нарады паступова пераходзяць ад дробных пытаньняў да пытаньняў, якія маюць вялікае вытворчае значэньне. Поруч з такімі агульнымі пытаньнямі (якіх нямнога), як даклады аб агульным стане прадпрыемства альбо даклад аб кантрольных лічбах, пратаколы, поўныя такіх пытаньняў, як: „Аб вялікім процанце боя" (Шкляны завод „Ільліч"), „Аб якасьці фабрыката", „Аб труд. дысцыпліне" „Аб рэжыме экономіі", „Аб калькуляцыі", „Аб становішчы катлоў" і г. д., і г. д.

Гэты невялічкі пералік пытаньняў зьяўляецца паказчыкам якаснага росту работы вытворчых нарад, іх глыбокага падыходу да вытворчасьці,

іх важнейшага значэньня для вытворчасьці, як асноўныя каналы, праз якія ў справу кіраўніцтва гаспадаркай цячэ вялікі практычны вопыт, здабыты рабочымі.

## Недахопы ў рабоце вытворчых нарад.

Трэба сказаць, што недахопаў яшчэ многа, і сярод іх некаторыя вельмі значныя. На гэтых недахопах трэба асабліва завастрыць нашу ўвагу, каб пазбавіцца ад мажлівасьці іх паўтарэньня ў будучым.

Вышэй намі было адзначана аб нездавальняючым кіраўніцтве ФЗМК работай вытворчых нарад. Яно складаецца ў тым, што вытворчыя нарады працуюць за ўласны страх і рыск, што яго справаздачы ФЗМК не заслухоўвае, пляны працы не разглядаюцца, правільнасьць рашэньняў не разглядаецца, а выконваньню гэтых рашэньняў увага не вызначаецца.

Адсюль няўмелае ў многіх выпадках складаньне пляну, пляны складаюцца грамоздзкія, часта нерэальныя, невыпаўнімыя і праца вядзецца бяз пляну. Недастатковае кіраўніцтва ФЗМК выклікае і нерэгулярнасьць работы вытворчых нарад і камісіяў, бываюць выпадкі, калі вытворчыя камісіі склікаюцца адзін раз у 4—5 м-цаў, а то і радзей. Паміж пасяджэньнямі вытворчых камісіяў бываюць перарывы да году і больш.

Зусім ня прыходзіцца даказваць, што такое становішча падрывае асновы работы і зводзе на няма што ўсё значэньне вытворчых нарад.

Такім-жа, бязумоўна, адмоўным момантам работы трэба лічыць выпадкі падмены работай вытворчых камісіяў работу вытворчых нарад. Гэтым ліквідуецца грамадзкі пачатак і масавы характар работы вытворчай нарады і замест іх уводзіцца практыка работы ў вузкім коле 3—5 альбо 7 т. т.—членаў вытворчых камісіяў, ствараецца нешта на манер „габінэтнай“ працы, а рабочая маса стаіць у старане.

Таксама павінны быць адзначаны выпадкі недастатковай падрыхтоўкі пытаньняў да вытворчых нарад з боку вытворчых камісіяў. У выніку на самой нарадзе ня ведаюць, з чаго пачаць, аб чым гаварыць, што вырашыць. Такое становішча, бязумоўна, адбівае ўсякую ахвоту ў рабочых наведваць нарады ў далейшым.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць і тое, што ў многіх выпадках вядзецца недастатковая справаздачнасьць перад рабочай масай аб працы вытворчых нарады і ня робіцца інфармацыя ўдзельнікаў вытворчых нарад аб ажыцьцяўленьні пастаноў і выніках. Надзвычайна слабая работа цэхавых вытворчых нарад і недастаткова ўцягнены жанчыны і моладзь у гэту працу. Усё гэта разам плюс поўная неналаджанасьць вучоту працы складае клубок вялікіх арганізацыйных няўвязак і недахопаў, якія трэба як найхутчэй зьнішчыць.

Завострываючы ўвагу на гэтых недахопах, трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што гэта абагульненьне недахопаў не павінна зразумецца так, як пагалоўная зьява. Гэта будзе няпраўдзіва, але ня ў гэтым, бязумоўна, справа. Важны сам па сабе факт, іх наліччa на асобных прадпрыемствах, і гэта ў пэўнай меры нас абавязвае ўзяцца энэргічна за іх зьнішчэньне.

Зусім асобна стаіць пытаньне аб рабочым-вынаходны. З гэтым пытаньнем дужа дрэнна. Гаспад. органы і інжанэрна-тэхнічны пэрсонал да гэтых часоў не ўявілі значэньня гэтага пытаньня. Адносіны, трэба сказаць, халатныя, часам нават праступныя адносіны да гэтае справы. Мы, па старой прывычцы, паступова раскачваемся, цяжкія на пад'ём нават у такіх выпадках, калі мэтазгоднасьць, важнасьць і карысьць гэтае справы даказана. Мы яшчэ не навучыліся ўлічваць тое аграмаднае зна-

чэньне для вытворчасьці, якое маюць усе гэтыя невялікія, часамі дробныя ўдасканальваньні варстата ці процэса працы, якое ўносіцца рабочым-вынаходцам. Мы ўсё яшчэ ня ўсвоілі, што палепшаньне работы варстата ў большай меры залежыць ад таго, хто на ім працуе. Мы яшчэ не навучыліся як трэба нават разумець рабочага, калі ён няўмела часамі выказвае сутнасьць свайго вынаходжваньня, над якімі ён доўгія начы сядзеў, ламаючы галаву. У нас, на жаль, вельмі яшчэ захована і пануе каставае высокамерра інжанэра да вынаходца. Таму і атрымліваем цэльную сэрыю шкоднасьцяй, праступных учынкаў у гэтым пытаньні. Ня гледзячы на тое, што палажэньне аб фондзе прэміраваньні даўно разаслана па мясцох, стварэньне гэтага фонду ня зрушана з месца. Як агульнае зьявішча, наглядаецца бесканечная валакіта. Для таго, каб дабіцца выдачы вынаходцу некалькі дзесяткаў рублёў прэміі, патрабуецца часамі ўдзел самых аўтарытэтнейшых органаў.

Факты, якія прыводзім ніжэй, яскрава ілюстрыруюць значэньне рабочага вынаходжваньня і поўнасьцю пацьвярджаюць ахарактарызаваныя вышэй адносіны да яго з боку мясцовых гаспад. органаў,

На шкляным заводзе „Труды“ мэханікам удасканалена топка, у выніку чаго атрымалася экономія апалу і мажлівасьць атапліваць адбросамі. Завком узьняў пытаньне аб прэміраваньні, але трэст адмовіў, што гэта ўдасканаленьне абавязак мэханіка.

На лесазаводзе № 2 у Бабруйску створаны аўтамат, які папераджае ломку варстата, і цыркулятарка аўтамат, якая дае экономію на зарплаце цыркулятаршчыка і паляпшае працу варстата. Два гэтыя вынаходжваньні пасланы ў Менск—адно яшчэ ў верасьні м-цы мінулага году, адказ не атрыманы. Адміністрацыя садзейнічаньня і пашырэньня на месцы не дае, на пасяджэньнях ЦП таксама не абгаворваўся.

На заводзе „Камінтэрн“ у Барысаве рабочым-сьлесарам уведзена ўдасканаленьне па рэканструкцыі фугоўкі з рыскай на гофманскую, за што ён і атрымаў прэмію—75 рублёў.

У дэпо МББ у Воршы машыністам Азарэвічам створаны: а) прыбор для праверкі конусаў і дымовых труб усіх сэрый паравозаў, без патрэбнасьці праверкі паравозаў на домкратах; б) прыбор для ўкладкі каласьнікоў у гарачым стане топак ува ўсіх сэрыях паравозаў пры разнафасонных калосьніках; в) самаход для такарна-шэечнага варстата. Першыя два вынаходжаньні зацьверджаны і ўжываюцца вытворчасьцю. Трэцяе яшчэ не ўжываецца, бо нідзе не зацьверджана. Матар'яльнае ўзнагароды вынаходца не атрымаў. Яму дадзена толькі грамата ўдасканаленьня.

На заводзе № 3 рабочым-сьлесарам Пржэводзкім сконструіраваны і зроблены ножніцы для абрэзкі канцоў ува ўсіх балтах. Ножніцы працуюць і далі добрыя вынікі. Інструктарам АРШ сконструіраваны і зроблены варстат для вырэзваньня канавак ува ўсіх дэталях малацілкі, веялкі, конных правадоў. Вынікі добрыя. Маляром Емельянавічам зроблены састаў масьляных фарбаў, якія замяняюць патэнтованыя фарбы, што ўдзешавіла іх на 45 проц.

Гэтыя факты толькі часьціна. Гэты перачань можна было б павялічыць у многа раз. Адсюль вывад: пытаньням рабочага вынаходжваньня павінны сур'ёзна заняцца ўсе зацікаўленыя органы, асабліва прафсаюзныя організацыі і гаспад. органы. Вельмі карысна было-б іх падвесьці спэцыяльнаму абсьледваньню з удзелам ЦКК-РСІ. Справа пашырэньня і садзейнічаньня рабочаму-вынаходцу павінна быць, што-б там ня сталася, пастаўлена на належную вышыню.

## Прапановы.

1. Зусім зразумела, што першай і асноўнай прапановай павінна быць—гэта прыняцьце адпаведных мер з боку саюзных органаў і партыйных ячэек да зьнішчэньня адзначаных недахопаў.

2. Павінны быць, бязумоўна, даведзены да ведама рабочай масы вынікі абсьледаваньня. Для гэтае мэты павінны быць шырока скарыстаны друк, насьценгазэты, агульныя і дэлегацкія сходы.

3. Абсьледваньне, між іншам, выявіла, што вынікі абсьледваньня, якое было праведзена ў мінулым годзе, не знашлі належнага адбітку ў чарговай рабоце профорганаў і вытворчых нарад на мясцох. Гэта не павінна паўтарыцца, іначай мы недахопаў ня зьнішчым. На аснове абсьледваньня павінна быць праведзена шырокае інструктаваньне як абсьледаваных, так і не абсьледаваных прадпрыемстваў.

4. У кароткі тэрмін павінны быць распрацованы ўпрошчаныя формы ўчоту працы вытворчых нарад.

5. Цэнтральныя Праўленьні Саюзаў, ОСПС і ВСНГБ павінны прыняць энэргічныя меры да правядзеньня ў жыцьцё палажэньня аб фондзе прэміраваньня рабочага вынаходжваньня і арганізацыі консультатыўнай тэхнічнай дапамогі рабочым-вынаходцам. Вельмі пажаданым таксама трэба лічыць правядзеньне абсьледваньня ў бліжэйшыя месяцы спэцыяльнага абсьледваньня гэтае справы з удзелам ЦКК-РСІ.

6. Неабходна скарыстаць вопыт, які маецца ў прамысловых раёнах саюзу, дзе прымяняецца шэраг карысных мэтадаў работы, скліканьня сумесных нарад прадпрыемстваў, вытворча зьвязаных паміж сабою, для абгаварэньня пытаньняў, якія выходзяць за межы пэўнага прадпрыемства і для абмена вопытам самых нарад.

Збор нарад асобных груп працаўнікоў, уцягненьне якіх у работу вытворчых нарад вельмі важна (асобныя конфэрэнцыі інжанэраў пэўнага прадпрыемства і г. д.).

7. Неабходна палепшыць вучот рабочых, якія вызначаюцца гаспадарчым і вытворым вопытам, арганізацыйнымі здольнасьцямі, для высоўваньня на адміністратыўна-гаспадарчую працу.

8. Павінен быць узмоцнены ўдзел саюзных органаў у тэхнічных нарадах, якія склікаюцца гаспадарчымі органамі.

9. Зьмест працы вытворчых нарад на бліжэйшы пэрыяд павінен быць пабудаваны такім чынам, каб у ёй знайшла-б непасрэднае адбіцьцё рацыяналізацыя вытворчасьці і зьніжэньне сабекошту продукцыі.

10. Да канца гаспадарчага году павінны быць скліканы вытворчыя конфэрэнцыі ў маштабе трэстаў.

Падгатоўка да гэтых канфэрэнцый павінна быць пачата зараз-жа.

---

**А. Курцік.**

# Газэта, як арганізатар.

## (Вопыт газэты ЦК ЛКСМБ „Чырвоная Зьмена“[1]).

Арганізацыйную дзейнасьць газэты вызвала да жыцьця тое, што часам з дапамогаю таго ці іншага дасканальна прадуманага мерапрыемства газэты можа сапраўды зьявіцца застрэльшчыкам новай справы, адным з дапаможнікаў ЦК ЛКСМБ у яго „вспашке“ новай паласы работы ў саюзе арганізацыйная дзейнасьць газэты дапамагае гуртаваць вопыты асобных „прызыўных агней“ асобных удалых, прыкладных ўзораў працы.

### 1. Пытаньні сельскай гаспадаркі.

Характэрны прыклад.

У арганізацыі ў свой час было многа размоў аб неабходнасьці ўцягваньня комсамольцаў у практычную працу па адбудаваньню сельскай гаспадаркі. Рэдакцыя газэты задумала склікаць першую ў Беларусі нараду комсамольцаў—самастойных сельскіх гаспадароў.

Месца для нарады быў выбран Горацкі раён Аршанскае акругі, у межах якога знаходзіцца Беларуская Сельска-Гаспадарчая Акадэмія. Была праведзена дасканальная падрыхтоўка. Супрацоўнікі газэты выехалі ў раён за тыдзень да склікаця нарады і разам з райкомолам правялі ўсю падрыхтоўчую працу.

У працах нарады прынялі ўдзел 35 комсамольцаў—самастойных гаспадароў, каля 20 гасьцей з вёскі і чалавек 20 местачковых комсамольцаў і юнкораў. Акрамя таго, увесь дзень (на ранішнім і вячэрнім пасяджэньнях) прысутнічалі і прымалі ўдзел у спрэчках 10 профэсароў і аграномаў, а таксама ўсе сябры бюро Аршанскага акругкому ЛКСМБ, сэкратар і сябры бюро мяйсцовага райкому КПБ, прадстаўнікі трох газэт (2 цэнтральныя і 1 акруговая). Былі атрыманы спэцыяльныя прывітаньні пажаданьні ад бюро ЦК КПБ, ЦК ЛКСМБ і г. д.

Гэтак кажучы, гэта была парадная частка. Непасрэдная-ж дзелавая праца была характэрная тым, што мы ніякіх вялізных дакладаў на тэмы: „воопчэ“ і „ў часнасьці“ ня ўключылі. Замест гэтага былі заслуханы два практычныя даклады двух комсамольцаў—самастойных сельскіх гаспадароў аб становішчы іх гаспадарак і дасканальныя садаклады аграномаў, якія загадзя выехалі на месца і абсьледвалі гаспадаркі гэтых комсамольцаў.

Па дакладах разгарнуліся ажыўленыя спрэчкі. У перамешку з вясковым бязвусым комсамольцам выступаў сьцяпенны, сівавалосы прафэсар, і, пасьля некалькіх адчувальна-шчырых уступных слоў, пачынаў даваць шэраг практычных парад па жывёлаводзтву ці другой галіне сельскай гаспадаркі.

---

[1]) Матар'ялы аб вопыце арганізацыйнай працы газэты „Чырвоная зьмена“ таксама друкуюцца ў часопісі „Маладняк“.

Нарада, ня гледзячы на тое, што працавала звыш 12 гадзін, прашла дзелавіта. Аб гэтым кажуць наступныя вытрымкі з двух лістоў, прысланых прафэсарамі, удзельнікамі нарады, у рэдакцыю газэты „Чырвоная Зьмена".

—„... Я быў запрошан на нараду комсамольцаў—самастойных гаспадароў. Думаю, што гэта яшчэ за выдумка, якімі могуць быць самастойнымі гаспадарамі ў вёсцы комсамольцы.

—„... Зьявіўся роўна ў 10 гадзін раніцы ў партклюб і адразу папапаў у вяселую кампанію комсамольцаў.

—„.. Выходзіць на трыбуну хлапец у кажуху і вялікіх ботах. Гаворыць аб тым, якая яго гаспадарка, як адносяцца бацькі да гаспадараньня сына і г. д. У яго ўжо паўтары гады, як заведзена дзевяціпольле і асушан пакос. Яго гаспадарка паляпшаецца на вачох.

—„... Іду дахаты зморанны, але здаволены тым, што прачнулася вёска, што маладыя комсамольскія ўзыходы цягнуцца да пабудовы колектыўнай гаспадаркі (з ліста дацэнта Ф. Паўлава).

—„... Маладыя вясковыя хлапцы—Кандраценка і Вайстроў чыталі даклады аб сваіх гаспадарках. Аграномы давалі справаздачы аб зробленым ім абсьледваньні гэтых гаспадарак. Профэсары, навучныя працаўнікі і шэраг маладых аграномаў—усе жадалі падзяліцца сваімі думкамі, парадамі, ідэямі.

—„... Гэта была цікавейшая нарада, якую я калі-небудзь сустракаў (з ліста прафэсара М. І. Бурштэйна).

Наперакор звычайнасьці, і спрэчкі вяліся на новы лад. Загадзя, да нарады, усім удзельнікам быў раздадзен прыблізны сьпіс тых пытаньняў, якія пажадана, каб былі зачэплены ў спрэчках.

Гэта, на першы погляд, вельмі маленькая мерапрыемства, надало спрэчкам строга дзелавы характар.

Пасьля нарады ўсе ўдзельнікі атрымалі ў выглядзе падарунка ад рэдакцыі па бібліотэцы с.-г. кніг.

Вынікі (коратка), як падрыхтоўка, так і правядзеньне нарады, былі падрабязгова асьветлены ў газэце. На аснове гэтага вопыту мясцовы райком КПБ і райкомол прынялі рашэньне аб праведзеньні падобных нарад (ня толькі ў комсамольцаў, але і ў комуністаў) па асобных сельветах. У Горках за апошні час ужо была склікана другая агульна-раённая нарада. Акрамя таго, хваля падобных нарад пракацілася па ўсіх акругах Беларусі. Агульная ўстаноўка і абвестка дню гэтых нарад у асноўным поўнасьцю кажа за скарыстаньне вопыту, абагуленага газэтай. Па вестках, якія маюцца, вопыт правядзеньня нарад комсамольцаў-сельскіх гаспадароў падштырхнула мясцовых навуковых працаўнікоў на стварэньне ў Горках, пры акадэміі, вячэрнага Сялянскага Унівэрсытэту. Унівэсытэт ўжо створаны і заняткі ў ім адбываюцца. Так наша Горацкая справа аказалася далёка не „дыфіцытнаю" справаю і дала некаторую дапамогу агульна-саюзнай працы.

## 2. Агляд клюбнай працы.

Завастрэньне ўвагі саюзу да пытаньняў культурна-масавай працы наштырхнула нас (яшчэ 6 месяцаў таму назад) на думку правясьці нешта падобнае на агляд самага вялікага маладзёжнага клюбу імя КІМ.

Рэдакцыя перад тым, як выпусьціць старонку, прысьвечаную вопыту працы гэтага клюбу, падтрыхтавала політсуд, які правяла ў сьценах клюбу. Палітсуд да таго зацікавіў братву, што зацягнуўся на два вечары і даў сапраўдную крытыку становішча клюбнай працы. Палітсуд даў нам магчымасьць выпусьціць прагледжаны на многасоценнай аўдыторыі распрацаваны матар'ял.

Перад пачаткам політсуда прысутнічаючым быў раздадзены надрукованы на ратататары акт абвінавачаньня. Гэта дало магчымасьць многім выступіць па свайму жаданьню, у якасьці сьведак.

### 3. Прыцягваньне моладзі ў тэатр.

Праводзячы агляд працы клюбу КІМ, мы цесна зьвязаліся на будучы час з клюбнымі працаўнікамі. Разам з клюбнымі працаўнікамі было рашано організаваць масавы паход працоўнай моладзі ў Беларускі Дзяржаўны Тэатр. Ва ўмовах Менску гэтая задача набыла ня толькі культурна-выхаваўчае, але і, бязумоўна, палітычнае значэньне (падаўляючая большасьць гарадзкой рабочай моладзі—яўрэі, пастаноўкі ў тэатры на беларускай мове).

Па дагаворанасьці з адміністрацыяй тэатру на „чырвона-зьменныя" спэктаклі рабілася скідка на білеты ў 50% (ад 15 да 75 кап.).

Акрамя таго, плата за вешалку поўнасьцю паступала ў распараджэньне рэдакцыі, і на гэтую рэзэрвную суму грошай купляліся білеты для дармовага распаўсюджваньня сярод беспрацоўнай моладзі.

Дні для пастановак намі выбіраліся, як правіла, адразу-ж пасьля атрыманьня пэнсіі. Такім чынам спэктаклі ў некаторай ступені зьяўляліся затрымкамі супроць растраты палучак (у час першага спэктаклю мы даручылі групе супрацоўнікаў зрабіць абход піўных, разьмешчаных каля Ляхаўскіх скураных заводаў, і звычайна, у дні палучак, перапоўненых моладзьдзю). (У дзень першага спэктаклю нашыя супрацоўнікі налічылі ў піўных усяго некалькі маладых хлопцаў. Тлумачылася гэта тым, што амаль усе маладыя скурнікі колектыўна закупілі білеты ў тэатр).

За апошні час было праведзена 6 пастановак для моладзі („Вір", „Перамога", „Над Нёмнам", „Стралок Тэль", „Змрок" і „Каваль Ваявода"). Пастаноўкі наведала ў агульным ліку 3600 чалавек; ніводнага спэктаклю ня было бяз так званага аншлягу.

Да часу скліканьня ў Менску, па партыйнай лініі, нарады па тэатральных пытаньнях мы прыстасавалі правядзеньню дыспуту аб пастаўленых для моладзі спэктаклях.

Дыспут адбыўся ў будынку тэатру, пры 700 аўдыторыі, і ў выніку значнага ліку жадаючых выказацца ў спрэчках, зацягнулася на два вечары.

Ня прыводзячы дробных ітогавых матар'ялаў аб дыспуту, мы лічым неабходным зрабіць наступную вытрымку з уступнай прамовы сябра бюро ЦК КПБ і старшыні Інстытуту Беларускай Культуры тав. Ігнатоўскага, якую ён зрабіў пры адчыненьні дыспуту:

„Газэта „Чырвоная Зьмена" і комсамольская організацыя ўпяршыню ў гісторыі Беларусі організавалі такі сапраўдна шырокі пролетарскі суд над тэатрам. Гэта факт вялікага культурнага і палітычнага значэньня".

Той-жа таварыш Ігнатоўскі ў сваёй заключнай прамове, даючы ацэнку дыспуту і 16 заслуханым выступленьням, адзначыў:

„Рабочая моладзь, якая выступіла ў спрэчках, у асноўным дала правільную ацэнку, паказаным ёй пастаноўкам і тэатру наогул.

„Я лічу мэтазгодным склікаць такія дыспуты пэрыядычна, бо яны даюць многа цікавага матар'ялу як культурным і тэатральным працаўнікам, так і самой моладзі".

Цяпер, побач з Менскам, падобныя паходы моладзі ў тэатр організуюцца ў шэрагу месц Беларусі (Віцебшчына, Магілеўшчына, Гомельшчына і г. д.).

Акрамя шырокай папулярызацыі спэктакляў у газэце (аб'явы, папярэдняе выкладаньне зьместу), былі разасланы і апавешчаны па прадпрыемствах.

### 4. Удзел у кампаніі зьніжэньня цэн.

Акрамя ўпартага, з нумару ў нумар, асьвятленьня шэрагу пытаньняў, зьвязаных са зьніжэньнем цэн (работа каапэрацыі, якасьць прадуктаў, накладныя выдаткі і г. д.), рэдакцыя правяла два арганізацыйныя мерапрыемствы.

Вопыт „інтэрв'ю" юнкораў і рэпарцёраў з хатнімі гаспадынямі паказаў, што яны могуць многа цікавага расказаць аб тым, як у іх за плітою, у гаршку дае сябе адчуваць зьніжэньне цэн.

Гэта наштурхнула на думку аб скліканьні шырокай нарады бацькоў камсамольцаў (пераважна хатніх гаспадынь) па пытаньню зьніжэньня цэн.

Нарадзе прышлося вызначыць на некалькі няспрыяючы дзень—нядзеля, дзень праваслаўнага і яўрэйскага вялікадню.

Перад нарадаю мы разаслалі супрацоўнікаў і юнкораў са сьпісам хатніх адрасоў жонак працоўных. Купіўшы 600 паштовых картак, мы па пошце, на хатнія адрасы, паслалі запрашэньне на нараду. Эфэкт быў нечаканы. На нараду зьявілася звыш 350 удзельніц, якія прышлі разам з груднымі маленькімі дзяцьмі. Пасьля дакладу Наркамгандлю і МЦРК пачаліся цікавыя спрэчкі.

Па матар'ялах гэтай нарады праўленьне МЦРК прыняло шэраг конкрэтных пастаноў (аб пашырэньні сеткі мясных крам, аб адносінах прыказчыкаў з пакупацелямі, аб папаўненьні асортымэнту тавараў і г. д.).

Аб тым, што нарада сябе апраўдала, акрамя практычных вынікаў, якія маюцца, гаворыць таксама і наступная вытрымка з газэтнай справаздачы, якая зьмешчана ў газэце ЦК КПБ „Зьвязда" ад 7 красавіка ў нумары 95 (2605):

„Скліканая па ініцыятыве рэдакцыі газэты „Чырвоная Зьмена" і Жанаддзелу акругкому КПБ, сход дэлегатаў і жонак рабочых прайшоў з вялікім посьпехам.

„Упяршыню праўленьню МЦРК прышлося рабіць справаздачу перад такой вялікай колькасьцю жонак пайшчыкаў—асноўным кадрам спажыўцоў у каапэратыўных крамах.

„Кожнае выступленьне насіла ўпаўне конкрэтны характар. Агульных разважаньняў ня было".

Зараз вопыт скліканьня падобнага роду нарад практыкуецца фабзаўкомамі асобных прадпрыемстваў і раённымі жанаддзеламі. Апрача сходаў хатніх гаспадынь, праведзена ў адным з раёнаў нарада вясковых камсамольцаў-каапэратараў (удзельнічала звыш 70 чалавек), якое таксама дало шмат цікавага фактычнага матар'ялу.

### 5. Турызм. Экскурсіі.

Праведзеная нарада па гэтым пытаньням паказала неабходнасьць утварэньня экскурсійна-турысцкага бюро, якое ў гэты час працуе пры рэдакцыі.

Апрача зьмяшчэньня на старонках газэты шматлікіх матар'ялаў на гэту тэму, мы знайшлі мэтазгодным даць відавочны штуршок гэтай справе, правесьці, у відзе пачыну, сіламі рэдакцыі экскурсію ў Ленінград—Кроншстад—Чырвонае Сяло—Волхаўбуд. Рыхтавацца да экскурсіі пачалі за $2^1/_2$ месяцы. Такі працяг часу даў магчымасьць: 1) Шырока паведаміць аб экскурсіі (праз газэты, спэцыяльна надрукаваны плякат і г. д.). 2) Накапіць жадаючым ехаць неабходную суму грошай (38 руб. 90 кап.) і 3) Нам самім правесьці дасканальную папярэднюю падрыхтоўку. У вы-

ніках дасканальнага, да самых мікраскапічных малых дробязяў выпрацаванага пляну, папярэдняй поўнай дагаворанасьці з ленінградзкімі ўстановамі нам ўдалося правесьці экскурсію без малейшай організацыйна-фінансавай перашкоды.

У экскурсіі прыняла ўдзел 130 чалавек. Пераважная большасьць—рабочая і сялянская моладзь. Экскурсантамі было прадстаўлена 11 акругаў БССР.

Экскурсія, разам з дарогай, працягнулася 14 дзён. Папярэдні плян наведваньня асобных месц (музэяў, прадпрыемстваў, флёту, Дзяржтэатру, палацаў і г. д.) выканан поўнасьцю.

Самы факт як падрыхтоўкі да экскурсіі (па ячэйках утвараліся грашовыя фонды, наладжваліся платныя вечары, рабіліся „атакі" на культфонды профсаюзаў і г. д.), як провадаў (на вялікіх станцыях экскурсантаў ўрачыста праважалі шматлюдныя натоўпы моладзі і ўзрослых рабочых з оркестрам музыкі, факеламі і г. д.) і ўдалага правядзеньня гэтага мерапрыемства (пасьля экскурсіі экскурсанты рабілі справаздачу на ячэйках, дзяліліся ўражаньнямі на вечарох, у клюбах і г. д.)—зьявілася лепшай пераканаўчай агітацыяй за экскурсіі і турызм. У выніку чаго за першыя летнія месяцы ўжо адправілася некалькі груп рабочай і студэнцкай маладзі на лодках да Чорнага Мора, рыхтуецца паездка рабочых хлапцоў у Ленінград і Маскву, сталі разьвівацца экскурсіі ў абшарах акругі ці раёну (пехатою, на вэлёсыпадах, на лодках) і павялічыліся прыезды ў Менск экскурсій сялянскай моладзі.

Экскурсыйна-турысцкая камісія пры рэдкакцыі, апрача парад экскурсантам, аказвае таксама экскурсіям дапамогу, выдаючы ім ільготныя чыгуначныя ліцеры, (якія нам усялякімі праўдамі і „няпраўдамі" ўдалося раздабыць).

### 6. Астатнія організацыйныя мерапрыемствы.

Я, здаецца, надта расьпісаўся—ужо сёмая старонка ідзе—і пагэтаму прымушан на астатніх (найбольш важных) організацыйных мерапрыемствах застанавіцца архі-коратка.

*Да выбараў у гарсавет* мы прывурочылі правядзеньне нарады комсамольцаў, працуючых у горсавеце, разам з кіраўнікамі гарсавецкіх сэкцыяў. Папярэдне разам з акруговым камітэтам ЛКСМБ было праведзена абсьледваньне той працы, якая выконваецца комсамольцамі ў савеце. Матар'ялы нарады, апрача зьмяшчэньня ў газэце (такія жывыя, практычныя даныя—лепш і лепш пераконваюць усялякую дырэктыву), былі таксама скарыстаны ў паказаньнях ЦК на месцы па гэтаму пытаньню.

*Да міжнароднага жаночага дню* рэдакцыя газэты разам са зьмяшчэньнем артыкулаў з агульнымі развацажаньнямі на тэму аб жаночым раўнапраўі, вылучыла два практычных пытаньні: 1) аб адносінах комсамольскіх ячэек да замужніх комсамолак і аб іх ўдзелу ў агульна-саюзнай працы і 2) аб ролі і аб тым фактычным месцы, якое ў гэты час займаюць дзяўчаты ў вытворчасьці. Папярэдне скліканай па гэтым пытаньням нарады (разам з майстрамі і прадфабкомамі—па другому пытаньню) дасканальна і рознастайна разабралі—пасьля чатырох вячэрніх пасяджэньняў,—гэтыя пытаньні і выпрацавалі два адкрытых лісты да організацыі. Гэтыя лісты па пастанове ЦК ЛКСМБ былі ўключаны ў абвестку дню чарговых ячэйковых сходаў.

У шэрагі акругаў акругкомамі ЛКСМБ былі праведзены падобныя нарады.

*Досуг піонэраў і набыцьцё імі тэхнічных навыкаў.* У гэтай нарадзе, побач з піонэрскім актывам, удзельнічала таксама шмат настаўні-

каў і бацькоў. Нарада аказалася характэрнай тым, што паказала амаль што поўнае неразуменьне з боку значнай часткі прысутнічаўшых таварышоў у тых пытаньнях, якія яны павінны былі абгаварыць. Гэта прымусіла газэту забіць трывогу, зьмясьціць шэраг матар'ялаў па гэтым пытаньням, а таксама правесьці на старонках газэты ажыўленую дыскусію

Характэрна адзначыць, што пры правядзеньні нарады *аб якасьці шэфскай працы комсамольскіх ячэек у вёсцы* таксама прышлося выкрыць, што вялікае захапленьне організацыйнымі формамі засланяла сабою асноўную мэту—непасрэдную шэфскую працу. У гэткім, прыкладна, духу намі і быў прыпаднесен у газэце матар'ял аб гэтай нарадзе.

* * *

*Гадавіна Чырвонай арміі* была ў газэце адбіта аглядам працы вайсковых гурткоў (з папярэднім абсьледваньнем) і падвядзеньнем вынікаў гэтага агляду на нарадзе.

Прыблізна з падобнай-жа ўстаноўкай, як і пералічаныя раней мерапрыемствы, былі праведзены нарады *комсамольцаў, працуючых у вытворчых нарадах,* і аб становішчы *здароўя працоўнай моладзі* і г. д.

У гэты час заканчваецца, пасьля месячнага правядзеньня, масавы *шахматны турнір моладзі* (супроць звычайнасьці для вялікай масавасьці турніру, мы настаялі на зьмякчэньні звычайных турнірных правілаў). Усяго ў турніры прыняла ўдзел звыш 250 чалавек, з іх пераважная частка—рабочая і часткова вучнёўская моладзь.

У хуткім часе пачнецца правадзімы рэдакцыяй газэты і ТСААвіахімам усебеларускі конкурс стралковых гурткоў.

Асноўнай, вузлавой задачай бліжэйшых трох месяцаў рэдакцыя вылучыла пытаньні мэліорацыі і торфараспрацовак.

Конкрэтная задача: дабіцца дапамогай ўплыву газэты такога становішча, каб пытаньні ўдзелу моладзі ў організацыі мэліорацыйных таварыстваў і таварыстваў па торфараспрацоўкам—зьявіліся-б адным з асноўных зьвеньняў гаспадарчай работы вясковых ячэек ЛКСМБ.

Наш плян „опэрацыйных дзеяньняў“: у шэраг акругаў мы паслалі нашых мэліорацыйна-тарфяных выведнікаў. Яны павінны, знаёмячыся непасрэдна з працай на месцы, прысылаць у газэту шэраг нарысаў, абагульняючых ужо маючыйся вопыт тарфяных і мэліорацыйных таварыстваў і ўдзелу ў іх моладзі. Апрача гэтага, нашым „выведнікам“ і юнселькорам даручана, як вопыт, організаваць у некаторых месцах групы садзейнічаньня моладзі работам і торфараспрацоўкам. У хуткім часе рэдакцыяй, разам з Наркамземам, будзе распрацаваны орыентыровачны плян працы гэтых груп садзейнічаньня.

Пры рэдакцыі ўтворана консультацыя па тарфяным і мэліорацыйным справам. Да ўсяго гэтага трэба дадаць, што ў гэты час наш рэдакцыйны колектыў (аж да аддзелу хронікі) грунтоўна знаёміцца з літаратурай па пытаньням мэліорацыі і торфу. Як вопыт, мы прапануем паставіць пытаньне аб ўзяцьці некаторымі раённымі комсамольскімі організацыямі шэфства над мэліорацыйнымі работамі, якія вытвараюцца на тэрыторыі данага раёну.

Я вам вышэй выклаў нешта ў родзе пляну, а як ён будзе рэалізован—пакажа нам недалёкая будучыня. Ва ўсякім выпадку ўсе рэдакцыйныя працаўнікі настроены ў адносінах да балот самым ваяўнічым вобразам, і мы спадзяемся, што гэты настрой зможам перадаць і ўсім чытачам.

* * *

За апошні час ў некаторых таварышоў узьнікла думка: ці ня выконвае рэдакцыя паралельную работу акругкомам і райкомам, ці ня *падмяняе* іх яна?

Мы лічым, што падобныя паразуменьні асобных таварышоў нельга прынімаць у сур'ёз.

Ні аб якім паралелізьме ня можа быць і гутаркі.

Наша ўстаноўка наступная: мы арганізацыйна афармляем тую галіну работы, на якую трэба зьвярнуць увагу арганізацыі, мы стараемся афарміць (па нашым сілам, з дапамогаю чытачоў і юнкораў) з дапамогай грамадзянства *мадэль* той ці іншай формы работы.

Аб шкодным паралелізьме ня можа быць і гутаркі, хаця-б таксама і таму, што тое ці іншае мерапрыемства мы праводзім толькі адзін раз з тым, каб яно з дапамогай саюзных органаў прымянялася ўва ўсёй саюзнай арганізацыі, урастала-б ў нашу штодзенную работу.

Затым. Кожнае важнае арганізацыйнае мерапрыемства, кожнае прынцыповае пытаньне мы загадзя згаджаем з ЦК і адпаведным акругкомам ці райкомам. Такім чынам, зноў такі, баязьлівым гутаркам аб шкоднай партызаншчыне ня можа быць і месца, так як любое мерапрыемства газэты цесна ўвязваецца, зьяўляецца *неразьдзельнай* часьцю агульнасаюзнай работы.

Падводзячы папярэднія вынікі праведзенай арганізацыйнай работы, трэба адзначыць, што ўстраненьне, зробленае ў гэтых адносінах газэтай „Комсамольская Праўда“, мае для нашых провінцыйных газэт вялікае значэньне.

Побач з чулым прыслухоўваньнем да саюзнага жыцьця праз паступаючы матар'ял асобныя арганізацыйныя мерапрыемствы даюць магчымасьць уважліва выслухоўваць пульс саюзнага жыцьця, даюць магчымасьць ведаць, „як пахне жыцьцё“.

Адным з асноўных недахопаў оргработы газэты зьяўляецца тое, што значная частка (але не пераважная) мерапрыемстваў праводзіцца ў Менску.

Шкодзіць невялікі грашовы каштарыс рэдакцыі.

Матар'ялы, якія выяўляюць нарады, політсуды і інш. мерапрыемствы, скарыстоўваюцца аддзеламі ЦК ЛКСМБ пры распрацоўцы тых ці іншых пытаньняў.

Вось такавы—адносна кароткія—наброскі аб вопыце арганізацыйнай працы рэдакцыі.

# НА МЯСЦОХ.

В. Л.

## Нацыянальнае пытаньне і як яно вырашаецца на чыгунцы.

Адзін з сродкаў канкрэтнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня зьяўляецца рашучае правядзеньне беларусізацыі партыйным, савецкім і коопэрацыйным апаратам. Тав. А. Н. у часопісе „Бальшавік Беларусі“ № 6 зазначае, што за два астатнія гады ў гэтае галіне ёсьць вялікія посьпехі. Посьпехі ёсьць. Праўда. Але т. А. Н. мусіць ня цікавіўся, як справа з беларусізацыяй на чыгунках Беларусі. Дзе посьпехаў, бадай, зусім няма, а калі і ёсьць, дык вельмі мала.

У той час, калі чыгунка, прарэзваючы цэлы шэраг вёсак і мястэчак, даўно патрабуе беларускае мовы. Што ўсё-ж такі зроблена ў галіне беларусізацыі на чыгунцы?

Прафэсыянальныя чыгуначныя організацыі прыступілі сваечасна да гэтае справы, і ёсьць дасягненьні, хоць ня ўсюды аднолькавыя, але ёсьць імкненьне беларусізіравацца.

Што зроблена ў справе беларусізацыі адміністрацыйна-гаспадарчымі органамі чыгункі? Абсалютна нічога. Палічыць за дасягненьні тыя шыльды, напісаныя на чатырох мовах, вывешаныя на станцыях, ня можна, бо яны так няправільна напісаны, што і сама адміністрацыя іх чытать ня ўмее.

Вось і ўся беларусізацыя. Гэткім габінэтным, казённым спосабам, адміністрацыя і абмежавалася ў правядзеньні беларусізацыі. Далей шыльдаў—ні кроку. Жыцьцёвага нічога няма. Няма ня толькі жывой беларускае мовы, але паперкі ня ўбачыш, напісанай пабеларуску. Сярод чыгуначнага чыноўніцтва погляд на беларускую мову, як на мову „хлопскую“ і зусім непатрэбую. Быў гэткі выпадак, калі адзін начальнік станцыі ў прысутнасьці рабочых, каб пашкодзіць справе беларусізацыі, казаў: „лучше извозчиком буду, но изучать этого хамского языка не стану“, а ці-ж ён адзін, іх цэлая процьма гэтых канцалярскіх абломкаў.

Моцным штурхачом правядзеньня беларусізацыі на чыгунцы быў першы ўсебеларускі зьезд саюзу чыгуначнікаў (лістапад 1926 г.). Зараз-жа, пасьля зьезду, Упаўнаважаным ад НКШЗ пры Саўнаркоме БССР быў зложаны каштарыс на 50.000 руб. на арганізацыю курсаў ці гурткоў, па гаспадарчае лініі, для вывучэньня беларускае мовы.

Зроблены былі сьпіскі, каму ў першую чаргу трэба беларусізіравацца і г. д. Прашла зіма. Надыходзе другая. Каштарыс астаўся каштарысам, а справы ня відаць.

Нават падрыхтоўчае працы не прароблена. На гэтым-жа зьездзе

рэзалюцыяй па дакладу т. Баліцкага патрабавалася ад Наркамасьветы зрабіць абгляд чыгуначных культасьветных установ.

Здаецца, і гэта ня выпаўнена, абгляд патрэбен.

Слаба рухаецца беларусізацыя і ў чыгуначных школах, праўда не ва ўсіх. Чыгуначнае настаўніцтва ў большасьці сваёй адстае ў гэтае галіне ад настаўніцтва вёскі.

У большасьці чыгуначнае настаўніцтва паміж сабой гаворыць парасейску. Беларусізацыя праводзіцца ў некаторых школах, толькі ў сьценах школы, а па-за школай, бадай што, не, бо гутарка як з дзецьмі, так і з дарослымі адбываецца на расейскай мове.

Быў выпадак, калі загадчыцы дзіцячага саду на адным сходзе па яе справаздачы было зададзена пісьмовае пытаньне пабеларуску, ясна і правільна напісанае, і яна не магла зразумець, прышлося пераводзіць; не змаглі перавесьці ёй і выхавацелькі гэтага саду.

Гэта гаворыць за тое, як падрыхтоўваецца наша дзетвара ў школу. Дзеці змалку русіфіцыруюцца, бо выхавацелькі самі не беларусізіраваны. Агулам кажучы, мала ёсьць чыгуначных настаўнікаў, уладаючых жывой беларускай мовай.

У цяжкім становішчы знаходзіцца чыгунка ў галіне беларусізацыі. Адначасна трэба ўспомніць словы т. Крыніцкага на зьезьдзе чыгуначнікаў які казаў: „*самую большую частку індустрыялізіраванага пралетарыяту па БССР складаюць чыгуначныя рабочыя*“.

Пагэтаму і нацыянальная палітыка павінна быць на чыгунцы на адным з першых месцаў.

Курсы ці гурткі трэба абавязкова цяпер адкрыць для працаўнікоў чыгункі, сродкі павінны быць адшуканы.

Трэба больш прапускаць цераз курсы беларусазнаўства чыгуначных асьветнікаў. Беларусізацыю трэба праводзіць ва ўсіх галінах працы, а не абмяжоўвацца пакалечанымі шыльдамі.

---

**Маляревич Г.**

# Коммунист в сельском хозяйстве.

## (Каралинская Райпарторганизация Мозырского Округа БССР).

> С'езд вновь подтверждает, что основными задачами в области сельского хозяйства продолжает оставаться интенсификация и увеличение его товарности.
>
> (Из решений 10-го с'езда КП(б)Б).

Как это из решений Партии практически находит свое отражение и преломление в сельском хозяйстве нашего крестьянина-коммуниста? Районная парторганизация занялась изучением этого вопроса о состоянии и агрокультурных начинаниях в хозяйствах коммунистов от сохи: Партком к изучению этого вопроса подошел в плоскости выделения комиссии по изучению этого вопроса, поставив в руководстве комиссии коммуниста хозяйственника, работающего в совхозе, проведением выборочного материала состояния 8 хозяйств коммунистов-крестьян.

Взятые материалы по обследованию 3-х типичных крестьянских хозяйств коммунистов от сохи дают следующую картину:

1. Хозяйство. Тип хозяйства середняцкое — хуторское, пахотной земли 6,5 дес., сенокоса 4,25 дес., усадебной и огородной земли 0,25 д., всего хозяйства имеется 11 дес. Наличие тяговой силы в хозяйстве — 1 рабочая лошадь. Продуктивного скота и птицы: рогатого скота—3 шт., подтелка—1, свиней—2, молодняка свиней—1, овец взрослых—3, молодняка овец—2, курей 6, молодняка—8 и уток 6 шт. Из построек приводимое хозяйство имеет дом в 400 р. абра—в 60 р., овин—в 150 р. и сарай - в 150 р. Годность построек в среднем 62 проц. Состав семьи данного коммуниста—7 чел., из коих трудоспособных—4, 1 мужчина и 3 женщины. Система данного сельского хозяйства животноводческо-полевая с 7-мипольным севооборотом, в стадии перехода от 3-х полья со следующим изменением культур—пар, рожь, овес, клевер, рожь, картофель и овес. Общая доходность хозяйства вместе с заработками вне хозяйства выражается в сумме 775 руб. в год, расходы же выражаются в сумме 1033 р. 39 к., т. е. расходы для семьи составляют 681 р. 39 к. и для скота 352 р., таким образом сведенный баланс этого середняцкого хозяйства с дефицитом в 258 руб. 39 к. в год.

2. Тип хозяйства коммуниста-бедняка. Земли данное хозяйство имеет пахоты 1,8 д., сенокоса—1,5 д., прирезанной к хозяйству неудобной земли—2 д. и усадебной земли 0,25 д. Всего хозяйство имеет 5,55 д. Из построек: дом, скотный сарай и амбар. Тяговая сила в хозяйстве: 2 рабочих вола, продуктивного скота: 1 корова, 2 подтелка и двое свиней.

Семья состоит из 4 ч., из коих трудоспособных—2. Снятый урожай от засева в 1927 г. в итоговой сумме выражается в 261 р., доходность от коров и свиней хозяйство имеет 90 р. Всего средств в хозяйстве годовых имеется 351 р., минимум же для данного хозяйства, исходя из расчета первого хозяйства, должно составлять 454 р, 26 к.—$\frac{(\text{т. е. } 681 \text{ р.} \times 4)}{6.}$—

Для скота 300 р. Это хозяйство бедняка коммуниста имеет следующий баланс: приходных своих средств 351 р., недостающих в хозяйстве средств 403 р. 26 к., баланс—754 р. 26 к. Эта же сумма составляет необходимость данного хозяйства в его расходной части.

3. Тип хозяйства—хозяйство с членом семьи служащим, имеет пахотной земли—4 д., сенокоса—1,5 д. Всего 5,5 д. Из построек: 1 дом и сарай, тяговой силы в хозяйстве 2 рабочих вола. Продуктивный скот: 2 коровы, молодняка—1 шт., свиней—2 шт. и овец—6 шт. Семья указанного хозяйства состоит из 10 чел., из них трудоспособных—5. Наличие годовых средств в хозяйстве от засевов 145 р. 60 к., от скота доходности 153 р. 60 к., а всего средств в хозяйстве составляет 299 р. 20 к. Всего же данному хозяйству необходимо иметь в годовом расходе для членов семьи 1135 р. 65 к. $\frac{(\text{т. е. } 681 \text{ р. } 39 \text{ к.} \times 10)}{6}$ и для скота 352 р., т. е. данному хозяйству необходимо 1487 р. 65 к.

Кроме того, в этом хозяйстве подсобными средствами является 360 р. в год от заработной платы члена семьи служащего и 60 р. от аренды за помещение, значит: годовое наличие собственных средств данного хозяйства составляет 719 р. 20 к. (т. е. 299 р. 20 к. собственных средств и 420 р. зарплата члена семьи и аренда за помещение). Данному хозяйству при его годовом приходе недостает 768 р. 45 к.

Как общий момент во всех хозяйствах коммунистов от сохи, общий баланс является дефицитным, и, кроме того, в хозяйствах отсутствует какой бы то ни было учет ведения и наличие средств. Проведенное Райкомом Совещание коммунистов крестьян от сохи района выявило, что каждый куммунар ставит своей задачей поставить культурно свое хозяйство, частично партийцы участвуют в работе машинных т-в. Плохо то, что культурно наладить свое хозяйство мешает отсутствие в достаточной степени кредитных средств, а наряду с этим и некоторая боязнь коммунистов получать лес или кредиты из-за боязни того, чтобы крестьянство не говорило: „вот он коммунист и поэтому получает". На правильное ведение хозяйства значительным образом отражается нагрузка партийцев крестьян общественно-массовой работой. Часть коммунистов от сохи начинают применять у себя в хозяйстве агро-культурные начинания, советуются с агрономом о лучшей постановке хозяйства и засевах культурных трав, в значительной степени прививают как показательные участки, засевы кормовых трав. „У меня есть сейчас показательный огород, засеяны кормовая свекла, турнепс, агрономическая морковь, благодаря чему мои коровы дают больше молока и я сейчас продаю масло". Раньше в деревне, когда я начинала у себя все это вводить, все смеялись, а сейчас бабы в деревне говорят, что я ведьма и забираю от коров молоко". Так заявила одна крестьянка-коммунистка.

Как достижения в работе по культурным начинаниям коммунистов крестьян нашего района необходимо отметить наличие хозяйственного роста их хозяйств, введение культур, улучшение способов обработки земли и пользование кредитами и другими видами сельско-хозяйственной помощи, главнейшие виды агрокультурных начинаний и переведение хозяйств с 3-х польной на многопольную систему и приближения их к культурно-показательному хозяйству. Крестьянство в деревне начинает понимать роль хозяев коммунистов, как проводников культурных начинаний в сельском хозяйстве, наблюдается определенное руководство коммуниста члена семьи (не самостоятельного хозяина) на переход последнего к культурному ведению.

Как недостатки в работе наших коммунистов от сохи надо отнести: это—отсутствие инициативы и участия в организации специальных видов кооперации, как то: машинные т-ва, молочные и семеноводческие артели, отсюда некоторое отсутствие машинного пользования и самых машин в хозяйствах коммунистов, пользование машинами у зажиточной части населения на невыгодных для хозяйства условиях. Наблюдаются только частичные пользования машинами при наличии последних в сельккресткомах.

Побочные заработки слабо практикуются в хозяйстве, за исключением коммунистов, члены семьи коих заняты на службе, по причинам, как слабости тяговой силы в хозяйствах, так и отсутствия мастеров в той или другой отрасли работы, так из-за отсутствием времени в силу партийной и общественной работы. Работа коммунистов хозяев по организации в деревне простейших видов коллективизации сельского хозяйства совсем незначительная, по причинам слабой осведомленности с культурным ведением хозяйства, недостаточным пользованием агропомощью и частичными нежеланиями работать на своем хозяйстве в силу пессимистических настроений к перспективам поднятия своего хозяйства.

Какие же задачи стоят перед партийными ячейками в деле улучшения работы среди коммунистов крестьян от сохи.

Пересмотреть и рационализировать партийную нагрузку коммунистов-хозяев, дабы последнее по возможности не отражалось на ведении хозяйства и привлечении средств в хозяйстве через побочные заработки. Для этой же цели, а вместе с тем и для лучшего руководства ячейками и практической помощи проводить периодические производственные совещания коммунистов-хозяев, вместе с комсомольцами хозяевами, приурочивая эти совещания к осеннему и весеннему периоду времени.

Большой застой в деле засева полей культурными травами играет „чересполосица", поэтому необходимо применять метод коллективных запашек и засевов, притягивая к этому своих соседей крестьян, наладить работу по самопомощи через ведение работы по хозяйственному устройству бедноты путем организации и участия в специальных видах кооперации и других видах коллективной самопомощи, проводя этим самим работу по коллективизации.

---

# ГІСТПАРТ.

**Н. Шапавалаў.**

## З гісторыі КП(б)Б.

### Партыя і Савецкая ўлада ў барацьбе з бандытызмам.

Рыскі мірны дагавор, заключаны з Польшчай 18-га сакавіка 1921 г., фармальна спыніў ваенныя дзеяньні між Савецкай дзяржавай і Рэччу Паспалітай, аднак, супярэчнасьці, існуючыя ў аснове дзяржаўнай будовы Савецкіх Рэспублік, з аднаго боку, і Польшчай, з другога—былі гэтак глыбокія, што дэ-факто барацьба гэта яшчэ цягнулася, праўда, у іншай форме, чым раней.

Гэта барацьба была адбіцьцём непрыміручасьці двух, пабудаваных на розных прыпцыпах сыстэм: новай Савецкай, закладзенай Кастрычніковай рэвалюцыяй, і старой, капіталістычнай.

Агульнае імкненьне заходня-эўрапэйскага капіталу—зьнішчыць гэта новае, нібы прынесенае з надворку і шкоднае капіталізму, найшло сабе характэрны выраз у барацьбе Польшчы з Савецкімі Рэспублікамі.

І калі з усёй відавочнасьцю выявілася, што ніякімі адкрытымі ваеннымі сродкамі нельга зламіць моцы новай дзяржавы,—гэта адкрытая доўгачасная і ўпартая барацьба скончылася падпісаньнем мірнага дагавору у Рызе. Рыскі мір паклаў пачатак новай барацьбе Польшчы з Савецкімі Рэспублікамі, якая на тэрыторыі Беларусі мела арыгінальную форму: падрыву дзяржавы з сярэдзіны і вядома пад імем барацьбы з *бандытызмам*.

Пачатак бандытызму на тэрыторыі Беларусі лічыцца з лістапада месяца 1920 г., у блізкім часе да заключэньня міру з Польшчай.

У адлічча ад бандытызму, разгарнуўшагася у 1919—1920 г. г. у РСФСР і Украіне, дзе ў банды набіраліся галоўным чынам мяйсцовыя, кулацкія, заможныя і часткова малазямельныя сяляне, ашуканыя агітацыяй антысавецкіх партый,—бандытызм на тэрыторыі Беларусі быў у пераважаючай большасьці выпадкаў закардоннага паходжаньня.

Дэмаралізованыя, разьбітыя Чырвонай арміяй войскі генэрала Булак-Балаховіча, адступаючыя ў Польшчу; дэзэртыры, пакінуўшыя шэрагі Чырвонай арміі і хаваючыяся да пары да часу ў лесе; кулацка-шляхецкі элемэнт; афіцэры быўшай царскай арміі,—вось тыя сілы, якія выступалі на барацьбу з Савецкай уладай.

Крымінальна-палітычны, варожы да Савецкай улады характар руху: напады на сёлы, вёскі, тэрор на савецкіх і партыйных працаўнікоў, яўрэйскія пагромы, грабункі і гвалты над мірным насельніцтвам, не спачуваючым бандытызму, вызначылі адносіны да яго малазямельнай і бязьзямельнай—бядняцка-батрацкай часткі насельніцтва. Бандытызм не знайшоў трывалай апоры ў карэнным насельніцтве Беларусі—у шырокіх масах сялянства, і чэрпаючы свае сілы галоўным чынам з арганізаваных

за кардомам, у Польшчы, атрадаў так званай: „Русской народной добровольческой армии", кіруючы склад якой быў з белага контр-рэволюцыйнага афіцэрства.

Першыя бандыцкія выступленьні мелі часткова крымінальны і выпадковы, неорганізаваны характар. Аж да самага сакавіка 1921 г. нельга было дакладна ўстанавіць палітычны твар бандытызму. Да гэтага часу было адзначана 40 выпадкаў пагромаў і нападаў.

З гэтага ліку 29 выпадкаў зроблена вайскамі Булак-Балаховіча, астатнія—шайкамі дэзэртыраў, палітычны твар якіх яўна выражан ня быў. 30 выпадаў з агульнага ліку нападаў прыпадае на Мазырскі павет, найбольш пацярпеўшы ад бандытызму.

Такім чынам, да сакавіка 1921 г. амаль не назіраецца моцна арганізаванага, з яўна выражаным палітычным зьместам бандытызму.

За кардонам у гэты час яшчэ толькі пачыналася фармаваньне анты-савецкіх атрадаў. Кіраўнічая роля належала у гэтай справе савінкаўскаму саюзу: „Защиты родины и свободы",—з удзелам Балаховіча, а таксама так званаму „Белорусскому политическому комитету" ў Польшчы.

Вясной 1921 г. бандытызм прымае больш шырокія разьмеры. Гэтаму спрыяе наступленьне лета і лясісты характар мяйсцовасьці, якая давала магчымасьць больш-менш доўгі час хавацца і ўхіляцца аружных сутычак з часьцінамі Чырвонай арміі.

З сакавіка месяца як лік банд, так і нападаў іх павялічваецца. Па неправераным даным, у Польшчы было арганізавана ў атрады для перапраўкі на тэрыторую Беларусі каля 6000 чал.

За два ваенных месяцы—сакавік і красавік—было зроблена 36 пагромаў і нападаў, за май—53. Усе яны зроблены арганізаванымі атрадамі банд, маючых пэўную палітычную пляцформу савінкаўскага „Союза защиты родины и свободы" [1]).

Характэрна, што з 53 нападаў, зробленых у маі месяцы, да 40 з іх прыпадае на яўрэйскія пагромы. Лёзунг—„бей жидов, спасай Россию,"—займаўшы ў самаўладнай палітыцы расейскага цара важнае мейсца, быў зноў высунуты псэўда-рэвалюцыянэрамі тыпу Савінкава; але працоўныя масы сялянства, набліжаныя партыяй да новага Савецкага жыцьця, зразумелі яго інакш,—як палітыку адцягнуць іх імкненьні ў бок ад сваіх сапраўдных сацыяльных інтарэсаў. Старое спрабаваньне царызмам сродак выхаваць масу ў дусе ненавісьці да яурэйскага насельніцтва, ад якога нібы-та і выходзяць усе бядоты працоўнага люду,—цяпер стала няпрыдатным.

Вясна 1921 г. была цяжкім часам для працы партыйных і нізавых Савецкіх арганізацый.

Узмоцненым тэрорам апэраваўшых банд быў падарваны шэраг мерапрыемств партыі і Савецкай улады. Зьбіраньне прадпадатку прыпынена, чатырохтыднёвік па апалу сарваны.

Савецкія, партыйныя і прафсаюзныя арганізацыі, пастаўленыя ў поўлегальныя варункі існаваньня, маглі вельмі слаба і недосыцна рэагаваць на ход і будаўніцтва мяйсцовага жыцьця.

А між тым дзейнасьць бандыцкіх атрадаў пашыралася: колькасьць банд і робленых імі пагромаў, грабункаў і гвалтаў з кожным месяцам расла.

За першым актыўным праяўленьнем сябе ў лістападзе месяцы бандытызм спадае і ізноў падымаецца ў сакавіку месяцы, ужо з больш пэўна выяўленым палітычным зьместам—нізрынуцьце Савецкай ўлады шля-

1) Зборнік „Савецкая Беларусь" 1921 г., ст. 235—„Вынікі барацьбы з бандытызмам у СССР".

хам унутранай падрыўной работы: тэрору над партыйнымі і Савецкімі працаўнікамі, нішчэньне грамадзкіх будаваньняў, разграмленьне каапэратываў, партыйных і камсамольскіх клюбаў і г. д.

Рост бандытызму дасягнуў сваёй найбольш высокай ступені ў маіжніўні месяцах; на гэтых узроўні ён пратрымаўся з нязначнымі ваганьнямі 4 месяцы, затым зноў з верасьня стаўісьці на спад, часткова з прычыны энэргічных крокаў, прынятых партыяй і Савецкай уладай, часткова дзеля наступленьня зімы і ў зьвязку з гэтым цяжкасьцяў для ваеннага чыну.

Есьць зусім зразумелаў тая „вагромністая праца“ „Саюзу защиты родины и свободы“, які напускаў бандыцкія шайкі на тэрыторыю Беларусі. Закардонныя проці-савецкія арганізацыі і перш за ўсё савінкаўскі „Союз защиты родины и свободы“ з беларускім палітычным камітэтам моцна пашырылі сваю дзейнасьць. На першае мая на Савецкай тэрыторыі налічвалася звыш 1.000 бандытаў. Да 12-га мая ў іх шэрагах было ўжо 2.000, а да 1 чэрвеня—3.500, з якіх 300 конных.

Шпаркі спад бандытызму асабліва прыкметны ў верасьні месяцы— у час найбольш рашучых чынаў ворганаў барацьбы з імі.

Спачатку барацьба з бандытызмам вялася бяз пэўнага пляну—асобна міліцыяй, Чырвонай арміяй, часьцінамі асобнага прызначэньня і ваенна-агентурнымі сіламі Надзвычайнай Камісіі, без адзінага кіруючага барацьбой апарату. З прычыны гэтага яна часта не дасягала мэты. Наадварот, нядосыцна энэргічнае рэагаваньне на бандыцкія выступленьні 1920 г., асабліва на лістападаўскія, надало ўпэўненасьці бандытам у магчымасьць ажыцьцяўленьня сваіх імкненьняў—разбурыць існуючы ў Беларусі Савецкі лад жыцьця з сярэдзіны. Гэта ўпэўненасьць і штурхала закардонныя палітычныя сілы да ўзмоцненай арганізацыі бандыцкіх атрадаў і перапраўкі іх на савецкую тэрыторыю для ваенных чынаў. Яна-ж пабуджала бандыцкія атрады, якія дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, да больш актыўных выступленьняў. І яны ішлі адзін за адным. У гэтым-жа лістападзе месяцы Булак-Балаховіч пачаў наступ на гор. Мазыр, і, ня гледзячы на гэраічную абарону часьцінамі N-скай Стралковай брыгады і комуністамі,—ён быў узяты.

У горадзе быў учынены цэлы шэраг пагромаў і грабункаў. Гэта найбольш буйны напад бандытаў на адзін з павятовых асяродкаў Беларусі. Напады на партыйныя і камсамольскія арганізацыі, на райвыканкомы, рэўкомы, каапэратывы і асобных партыйных і савецкіх працаўнікоў у той час былі звычайнымі зьявамі і здараліся даволі часта. У мясцох найбольш „багатымі“ бандытамі яны тырорызавалі ўсю дзейнасьць мясцовых партыйных і савецкіх установ, і паставілі іх ва ўмовы поўлегальнага існаваньня.

Шпаркае пашырэньне бандытызму паставіла прад кампартыяй і савуладай пытаньне аб аб'яднаньні ў адзіны апарат сіл і сродкаў для барацьбы з ім.

Гэта аб'яднаньне ўсіх органаў па барацьбе з бандытызмам ажыцьцявілася спачатку з арганізацыяй цэнтральных і павятовых камісій па барацьбе з бандытызмам („Комбанда“), 19—25 мая 1921 г., а затым з арганізацыяй „Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету Менскага раёну“. У склад Ревкому Мінраёну ўваходзілі: камандвойск тав. Урбановіч, Нарком УнутСпраў і Наркомваен. тав. Адамовіч—ён-жа прадстаўнік ад ЦБ КПБ і стар. Чэкабел—тав. Ольскі.

У маі і чэрвені м-цы сярод насельніцтва была праведзена шырокая агітацыя аб існасьці бандытызму. Валкампарты, ячэйкі, валвыканкомы і сельсаветы ўзмоцнены новымі партпрацаўнікамі; быў прыняты шэраг мер каральнага характару: канфіскацыя маемасьці асоб, якія ўдзельнічаюць

і дапамагалі барацьбе банд з Савецкай уладай. У шэраг паветаў і сельскіх мясцовасьцяў былі накіраваны выяздныя сэсіі ваенных трыбуналаў. Судовыя працэсы над бандытамі ў большасьці выпадках мелі паказальны, публічны характар, і суровыя каральныя меры судоў—аж да расстрэлу, побач з шырокай агітацыяй зрабілі належны ўплыў.

Але, ня гледзячы на ўзмоцненыя мерапрыемствы, к часу ўтварэньня Рэвваенсавету бандытызм пасьпеў даволі шырока арганізавацца на Беларусі.

Уся яго праца праводзілася цэлай сеткай канспыратыўных і адкрытых ваенна-палітычных арганізацый, з трывалай сувязьзю між сабой і з заграцічным савінкаўскім „Союзам защиты родины и свободы". Будова бандыцкіх арганізацый была складзена па прынцыпу строгай цэнтралізацыі. Кіраўніцтва рухам ажыцьцяўлялася памянёным саюзам праз так званы „Главный штаб белорусских партизан", які знаходзіўся на тэрыторыі Польшчы. Усе выдаткі—па набіраньню банд, узбраеньню і адпраўцы іх на Савецкую тэрыторыю—пераважна браў на сябе польскі ўрад, пры дапамозе якога арганізаваныя бандыцкія атрады нелегальна пераходзілі дзяржаўную граніцу і разыходзіліся для апэрацый у розныя бакі.

Апроч дзейнічаючых ваенных сіл, у шмат якіх паветах і валасьцёх існавалі выведчыя, дапамагаючыя бандыцкім апэрацыям, „политические комитеты". Яны вялі нелегальную выведчую працу. Задачай іх было: інфармаваць камандаваньне банд аб усіх мерапрыемствах, якія рабіліся кампартыяй і савуладай па барацьбе з бандытызмам, і наогул, аб усіх цікавячых іх вестках ваеннага і палітычнага характару.

Сябрамі бандыцкіх палітычных камітэтаў былі таксама некаторыя мясцовыя адказныя працаўнікі. Напрыклад, у Чэрвеньскім павеце сябрамі бандыцкага палітычнага камітэту былі павятовы ваенком і сябра ЦВК Беларусі—Жылінскі і ваенрук Канапацкі.

Гэткая была ў асноўным абстаноўка барацьбы летам 1921 году, к моманту ўтварэньня Рэвваенсавету Менскага раёну. З яго ўтварэньнем „Камбанды" былі ліквідаваны, уся тэрыторыя Рэспублікі па ліку яе паветаў была падзелена на баявыя вучасткі, граніцы якіх саўпадалі з граніцамі паветаў. У паветах былі зарганізаваны паліткамісіі па барацьбе з бандытызмам, якія ўключалі ў свой склад: старшыню павятовага выканкому, ён-жа быў старшыня гэтай камісіі, начальніка баявога вучастка, ваеннага камісара, заг. палітбюро, начальніка асобага аддзелу і сакратара павятовага Камітэту Кампартыі.

Начальнікі баявых вучасткаў асяродкавалі ў сваіх руках усе сілы і сродкі для барацьбы з бандытызмам. Ім былі падпарадкаваны ўсе рэгулярныя войскі, разьмешчаныя на тэрыторыі паветаў, міліцыя, часткова і камуністычныя атрады асобнага прызначэньня, якія маглі быць мабілізаваны ўдарным парадкам для правядзеньня баявых апэрацый.

КПБ прыняла шэраг палітычна-асьветных мер па барацьбе з бандытызмам. Была праведзена шырокая агітацыйная кампанія. За час з 9-га ліпеня па 1-га жніўня лік мітынгаў дасягнуў 1.500. Партыйны і савецкі друк таксама аддалі максымум увагі ўдарнасьці гэтай кампаніі. Праведзеная мабілізацыя партыйных сіл, перавыбары сельсаветаў і валвыканкомаў, абгляд партыйнай працы вясковых ячэек—узмацнілі партыйны і савецкі апарат на мясцох і стварылі спрыяючыя варункі для перамогі над бандытызмам. Побач з мерамі ваенна-палітычнага і асьветнага характару быў прыняты шэраг каральных мер. За ўдзел у бандыцкіх выступленьнях, сховы бандытаў і дапамогу накладаліся самыя суровыя кары, аж да расстрэлу, а савецкія і партыйныя працаўнікі, праявіўшыя трусьлівасьць і бязьдзейнасьць, лічыліся здраднікамі і нясьлі тыя-ж кары, як і ўдзельнікі бандыцкіх выступленьняў.

Каральная палітыка партыі і савецкай ўлады няўхільна праводзіла прынцыпы суровасьці кары за ўзброеныя і іншыя выступленьні, пагражаючыя дыктатуры пралетарыяту. Гэта выклікалася вострасьцю барацьбы і пільнай неабходнасьцю стварыць для бандытызму няспрыяючыя ўмовы на савецкай тэрыторыі, ізаляваць ад яго сялянства, паставіць бандыцкія атрады ў цяжкія ўмовы нелегальнага існаваньня, без надзеі атрымаць дапамогу, хаця-б і ў слаёх шляхецкіх—спачуваючых ім. Толькі суровасьць кары, пагроза гэткімі-ж карамі для асоб, якія хаваюць бандытаў, магла мець належны ўплыў на шляхецкае насельніцтва. Яна-ж магла вызначыць і вызначала адносіны да бандытызму маласьвядомых серадняцкіх і часткі кулацкіх сялянскіх мас, якія да рашучай каральнай палітыкі адносіліся да бандытызму пасыўна-спачуваючы. Наогул трэба заўважыць, што гэтыя пласты насельніцтва былі ў той час цалкам падпарадкаваны ўплыву нізавых партыйных і савецкіх арганізацый. Слабасьць партыйнага і савецкага апарату, яго непрацаздольнасьць і расхлябанасьць часткова адштурхнула іх ад партыі і савецкай ўлады, але яны не пайшлі ў лягер бандытызму, а толькі захавалі да яго пасыўна-спрыяючыя адносіны. Шырокія-ж масы сялянства і гарадзкога насельніцтва адносіліся да бандытызму варожа. Ня кажучы ўжо аб тым, што бандытызм тэрорызаваў насельніцтва, ён парушыў мірны ход грамадзкага жыцьця, прыпыніў нармальны таваразварот гораду з вёскай. А гэтыя парушэньні так ці інакш адбіліся на інтарэсах працоўных і выклікалі настрої не на карысьць бандытызму. І калі ад нерашучых мер па барацьбе з бандытызмам улетку 1921 г. партыя і савецкая ўлада перашлі да мер больш рашучых і суровых,—шырокія масы насельніцтва сустрэлі іх зусім спачуцьцёва, а тыя, хто былі маласьвядомыя, вагаліся і да гэтага часу пасыўна адносіліся да бандытызму, сталі праяўляць да яго актыўна-варожыя адносіны.

Усе палітычныя і ваенныя мерапрыемствы, узятыя разам, а таксама і зьмены ў настроі насельніцтва садзейнічалі посьпеху барацьбы.

К канцу 1921 г. палітычны характар бандытызму затушоўваецца яго крымінальнымі нападамі на хутары, сёлы і асобных асоб, часткова з прычыны помсты, часткова для здабыцьця харчаваньня. Гэта яшчэ больш адштурхвала ад іх насельніцтва. У гэты час ужо маюцца выпадкі, калі сяляне самі актыўна ўдзельнічаюць у лоўлі бандытаў (Барысаўскі павет).

Цяжкія варункі, у якіх апынуліся бандыцкія атрады, дзякуючы рашучай барацьбе з імі органаў партыі і савецкай улады, прымусілі бандытаў ісьці назад у Польшчу. У жніўні месяцы 1921 г. за савецкую граніцу ўцяклі тры буйных і шмат дробных банд. К канцу году лік банд, якія уцякалі за граніцу, павялічыўся, застаўшыяся-ж—ліквідаваліся.

Бандытызм зьявіўся яскравым паказальнікам непрыміручасьці буржуазіі з савецкай сыстэмай, і яна была гатова пайсьці на ўсялякія сродкі, каб зламіць дыктатуру пралетарыяту. Бандытызм пасьля грамадзянскай вайны быў адным з гэтых апошніх і разам з гэтым нягодных сродкаў,—мізэрнай спробай, якая скончылася няўдачліва. Відавочна, што пры першым выгодным выпадку буржуазія зноў пастараецца аднавіць сваю барацьбу з краінай дыктатуры пралетарыяту, і гэта абавязвае КПБ усебакова ўзмацняць саюз рабочай клясы з сялянствам, дзеля таго, што на падрыве яго бандытызм 1920—1921 г. г. будаваў свае палітычныя пляны.

---

# У ЦК КП(б)Б.

**Прапановы па культ. асьветнай працы сярод беспрацоўных.**

1. Адзначыць, што да гэтага часу праца па культ. абслугоўваньню беспрацоўных праводзілася часткова органамі профсаюзаў і Наркампрацы бяз удзелу з боку органаў паліт. асьветы і што сучаснае становішча працы не здавальняюча; у далейшым неабходна правядзеньне шэрагу мерапрыемств па ўзмацненьню працы у гэтай галіне як з боку АК КПБ, так і органаў паліт. асьветы, профсаюзаў і Наркампрацы.

2. У асноўным культ. асьветная праца сярод беспрацоўных павінна праводзіцца органамі паліт. асьветы пры непасрэдным удзеле і садзейнічаньні з боку профсаюзаў і органаў Наркампрацы, дзеля чаго неабходна прадугледзіць уключэньне ў каштарыс Наркамасьветы сродкаў для культ. асьвет. працы сярод беспрацоўных.

3. Пры правядзеньні работы неабходна асабіста ўлічваць абслугоўваньне рабочай моладзі, выходзячы з спэцыфічных асаблівасьцяў гэтай групы беспрацоўных, зьвярнуць увагу на большае ўцягненьне іх у культурную работу у ўстановах паліт. асьветы і профсаюзных клюбах, асабліва па лініі юнсэкцый пры клюбах.

4. Маючы на ўвазе значную колькасьць беспрацоўных жанчын (каля 40 проц.), а таксама прымаючы пад ўвагу іх нізкі культурны узровень, што патрабуе асабістага падыходу пры правядзеньні работы і большага ўцягненьня у культ. асьветную працу у клюбах, хатах-чытальнях, у гуртках, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ліквідаваньне няпісьменасьці.

5. Масавая культасьветная праца сярод беспрацоўных павінна грунтавацца на партыйных задачах, праводзімых у сучасны момант, і ў практычным правядзеньні павінна адказваць па асноўным пытаньням, праводзімым на прадпрыемствах, установах і профсаюзах.

6. На падставе маючагася вопыту, у далейшым культ. асьветная праца павінна будавацца і праводзіцца наступнымі формамі і мэтадамі.

**I. Па лініі органаў палітасьветы.**

а) Абарудаваньне чытален пры Біржах Труда, чырвоных кутках, бібліатэкі, выпіска газэт—часопісаў, даведачная праца, насьценныя газэты.

б) Пасылка дакладчыкаў і лектароў.

в) Самаадукацыйная праца і забесьпячэньне мэтадычна-кіраўнічым матар'ялам.

г) Забесьпячэньне кіраўнікамі і мэтадычнымі матар'ямі самаадукацыйных гурткоў, як, напрыклад, вывучэньне беларускае мовы.

д) Уцягненьне ў агульныя лікпункты.

е) Уцягненьне ў школы малапісьменных і інш. рабочыя і партыйныя школы.

ж) Адчыненьне асабістых лікпунктаў пры Біржах Труда.

з) Уцягненьне беспрацоўных у лік чытачоў агульных бібліатэк.

і) Абслугоўваньне беспрацоўных тэатрамі і кіно, як на льготных умовах і часткова дармна, перасоўкі на

грамадзкія работы, а таксама абслугоўваньне у раёнах.

к) Экскурсыйная праца.

л) Вайсковая прапаганда.

м) Дырэктыва нар. дамам і хатам-чытальням аб абслугоўваньні беспрацоўных ў раёнах.

н) Абавязковае ўключэньне ў плян працы паліт. асьвет. установ працы сярод беспрацоўных

## II. Па лініі профсаюзаў.

а) ЦСПСБ і АСПС праводзяць культ. абслугоўваньне беспрацоўных у парадку дапамогі і садзейнічаньня органам паліт. асьветы. Пляны палітасьветы павінны ўзгадняцца з профсаюзамі.

б) ЦП саюзам і акр. аддзяленьням прыняць энэргічны ўдзел у гэтай працы ў парадку ўсялякай дапамогі і большага ўцягненьня беспрацоўных у сваю клюбную, бібліатэчную і работу чырв. куткоў.

в) Зьмест і формы культработы сярод беспрацоўных з боку профсаюзаў апрадзяляецца зьместам і формамі агульнай культурна-асьветнай работы сярод ўсіх сяброў саюзаў.

г) Абслугоўваньне беспрацоўных сяброў саюзаў праз ўцягненьне ў сябры клюбаў, праз большы ахват іх і актыўны ўдзел ува ўсіх формах масавай, гуртковай, клюбнай і бібліатэчнай работы. У вячэрні час работа праводзіцца з усімі сябрамі саюзаў, аднак допускаючы арганізацыю асабістых вечароў пытаньняў і адказаў.

д) Правядзеньне работы удзень; вылучаюць дзеля гэтага аддзельных работнікаў, а таксама арганізуюць дзенныя чытальні, скарыстоўваючы у клюбах асобныя пакоі дзеля гэтае мэты.

е) Работа ў чырв. кутках з беспрацоўнымі праводзіцца у тых формах і мэтадах, у якіх праходзіць работа наогул, шляхам дакладаў, гутарак, гром. чыткі газэт і літаратуры, выданьне насьценных газэт і г. д.

ж) Абслугоўваньне беспрацоўных на Біржах Труда клюбнымі мастацкімі гурткамі і пастаноўкі масавай мастацкай работы.

з) Снабжэньне бібліатэк пры Біржах Труда, профсаюзнай і клюбнай бібліотэкі шляхам перасовак.

і) Вылучэньне профсаюзамі сродкаў культфонду дзеля правядзеньня культасьветнай работы сярод беспрацоўных.

к) Абслугоўваньне сяброў саюзаў беспрацоўных кіно і тэатрамі, шляхам вылучэньня пэўнага ліку білетаў на саюзныя кіно і тэатральныя пастаноўкі.

л) Арганізацыя сярод беспрацоўных гурткоў у парадку самадзейнасьці, як, напрыклад: спортыўныя, вайсковыя, музычныя, кройкі і шыцьця і г. д.

## III. Па лініі органаў Наркампрацы.

Удзел і садзейнічаньне ў працы па культ. абслугоўваньню павінна выражацца ў прадстаўленьні памяшканьняў для правядзеньня культработы, а таксама назіраньня і ўдзелу ў праводзімай палітасьветамі і профсаюзамі рабоце.

7. На падставе гэтых дырэктыў прапанаваць фракцыям Наркамасьветы, ЦСПСБ і Наркампрацы распрацаваць практычныя мерапрыемствы па сваёй лініі пэрыодычна правярая іх выкананьне на мясцох.

8. У красавіку мес. 1928 г. паставіць даклад на калегіі АПА у парадку праверкі выкананьня гэтых дырэктыў.

## Рэзалюцыя Бюро ЦК КП(б)Б аб выніках партасьветы за 1926-27 навучальны год.

Мінулы навучальны год, у параўнаньні з папярэднім годам, даў наступныя дасягненьні:

1) Партасьвета ў значнай меры садзейнічала бальшавізацыі членаў партыі ў адносінах усваеньня імі асноўных пытаньняў політыкі пар-

ты, выпрацоўкі ў іх сьвядомых адмоўных адносін да опозыцыі, партыйнай вытрыманасьці, згуртованасьці і адзінства; зьнішчэньне дробна-буржуазных настрояў і рэштак мінулага ў выхадцаў з іншых партый.

2) Узвысіўся агульна-політычны ўзровень партыйцаў, пры агульным зьніжэньні ахопу парторганізацый партасьветай, узрос кадр навучаючыхся ў нармальных і вячэрніх савпартшколах, пашырылася кола асоб, якія займаюцца ўзвышанай самаадукацыяй, пры чым павышаныя гурткі па вывучэньню асобных дысцыплін і пытаньняў (прадметныя гурткі) пачалі ўжо паступова ўтварацца і ў вёсцы.

3) Падрыхтоўка, укамплектаваньне, падбор прапагандыстых і самапраца як школ, так і гуртоў (знач на лепшая, чым у папярэднім годзе).

4) Некалькі палепшыўся якасны склад прапагандыстых; узвысіўся іх тэорэтычны ўзровень, павялічыўся лік прапагандыстых з двухгадовым стажам і больш, вылучаны на прапагандысцкую работу рабочыя ад варштату.

5) Перавод на беларускую мову партыйнай і комсамольскай асьветы ў вёсцы і ўвядзеньне ў 1926-27 навучальным годзе беларускае мовы, як дысцыпліны, у гарадзкіх і нармальных комсамольскіх школах садзейнічалі беларусізацыі партыйнай і комсамольскай організацыі.

Аднак, разам з гэтымі дасягненьнямі ў працы па партасьвеце мелі месца наступныя недахопы:

1) Адсутнасьць выстарчальнай гібкасьці ў партасьвеце, фармалізм, праяўлены пры комплектаваньні (надняволенасьць), разьвёрстка і невыстарчальная ўвага на тэхнічную граматнасьць, адсутнасьць гібкасьці, няўвязка з бягучымі пытаньнямі і практычнай працай партыйцаў на прадпрыемствах,—усё гэта зьявілася прычынай нездаволенасьці ўзросшых запатрабаваньняў навучаючыхся, прад'яўляемых як складанасьцю пытаньняў нашага соцыялістычнага будаўніцтва і міжнароднай рэвалюцыйнай барацьбы, так і агульным узвышэньнем політычнага і культурнага ўзроўню масы партыйцаў і комсамольцаў, і прывяло да некаторага адліву іх ад школ.

У вёсцы, пры камплектаваньні, апрача гэтага, не заўсёды ўдачна абіраецца цэнтр школы, і прыцягненьне партыйцаў у школы наогул затруднілася тым, што навучэньне ў рухомых школах, зьвязанае з адрывам ад работы, не адпавядае бытавам умовам вясковых партыйцаў, з прычыны чаго разьвіцьцё партыйцаў на вёсцы адстае ад агульнага разьвіцьця парторганізацый.

2) Ня досыць поўны ахоп партыйцаў скарочанай школай.

3) Малыя дасягненьні па ўсваеньню беларускае мовы ў гарадзкіх політшколах, з прычыны нездавальняючага падбору большасьці выкладчыкаў і ня зусім удала адведзенага часу для беларускае мовы (пасьля праграмнай гутаркі, трэцяя дадатковая гадзіна).

4) Пры здавальняючым ахопе нізавога актыву зусім невыстарчальны ахоп сярэдняга (гарадзкога і раённага) і акругавага актыву ўсімі відамі партасьветы.

5) Адсутнасьць яшчэ сталага цьвёрдага кадру пропагандыстых. Слабае і несыстэматычнае кіраўніцтва прапагандыстымі, недастатковая праца агітпропгабінэтаў у гэтай галіне, што адбівалася на якасьці і ідэёвым зьмесьце работы некаторых школ і гуртоў.

6) Адсутнасьць, за выключэньнем рухомых палітшкол, распрацованага і прыстасованага да школ беларускага мясцовага мэтарыялу.

Выходзячы з усяго гэтага у наступаючым 1927-28 навучальным годзе ў працы па партасьвеце павінны быць пастаўлены наступныя задачы:

1) У працы школ надаць больш гібкасьці, адпавядаючай запатрабаваньням партыйнай масы, шляхам прапрацоўкі па-за програмай паасобных пытаньняў бягучай політыкі, высоўваемых жыцьцём і выклікаючых зацікаўленасьць у навучаючыхся, увязваючы з практычнай працай

партыйцаў па прадпрыемствах і ўстановах.

2) Адмовіцца ад падняволенасьці і „разьвёрсткі“ па школах, узяць рашучы курс на дабраахвотнасьць выбараў формаў партыйнае асьветы. „Лічучы для партыйцаў абавязковым толькі адзін год абучэньня ў школе: для гарадзкіх — скарочаная школа, для вясковых—рухомая школа або стацыянарка“ (з рэзалюцыі ЦК УсеКП(б).

Абавязковы для партыйцаў мінімум палітычных ведаў пакінуць і надалей у разьмеры нармальнай школы, набываючы яго ў розных па выбару формах (школы, гурткі, самаадукацыя).

3) Паставіць перад парторганізацыямі задачу максымальнага ўцягненьня малападрыхтаваных партыйцаў у школы малапісьменных. Партыйцаў, якія навучаюцца ў агульнаадукацыйных школах малапісьменнасьці, вызваляць ад абавязковай палітвучобы. Для ахопу вясковых партыйцаў перайсьці на стацыянарку. Рухомую школу захаваць для ахопу адзінак комуністых, комсамолу і беспартыйнага актыву. Лічыць неабходным захаваць выданыя па бюджэту сродкі на інтэрнат.

4) У гарадзкіх школах захаваць і надалей парадак заняткаў—2 дні на тыдзень з ужываньнем элемэнтаў лябараторнага пляну.

Надаючы палітычнае значэньне вывучэньню партыйцамі беларускае мовы, скарыстаць партыйную сетку для вывучэньня яе, адвёўшы ёй адпаведнае месца ў раскладзе заняткаў, але без дадатковага дня, а таксама перавесьці максымальную колькасьць нармальных школ на беларускую мову.

5) Школы ў далейшым павінны даць навучаючымся навыкі самастойнае працы, прывіць уменьне і жаданьне займацца самаадукацыяй пасьля школы. Па гэтаму пытаньню АПА ЦК распрацаваць падрабязную мэтодычную інструкцыю.

6) Лічыць неабходным організоваць у Менску Ўсебеларускія курсы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі гарадзкіх прапагандыстых.

7) Курсы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі прапагандыстых, апрача сваёй простай мэты тэорэтычнай і мэтодычнай падрыхтоўкі прапагандыстых, павінны быць адначасна лябараторыяй па ўсім тэмам програм палітшкол „рабочага пляну“, якім карысталіся-б у сваёй практычнай працы ўсе прапагандысты, у тым ліку і неахопленыя курсамі.

8) Трымаць і надалей курс на ўсё большае вылучэньне на прапагандысцкую працу рабочых ад варштату, маючых дастатковы партстаж, з лепшых навучаючыхся ў нармальных і вячэрніх саўпартшколах.

9) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на організацыю сыстэматычнага кіраўніцтва прапагандыстымі ў працягу ўсяго году. Дамагчыся рэгулярнасьці заняткаў сэмінарыяў, забясьпечыўшы іх лепшымі кіраўнікамі, склікаць пэрыядычныя нарады ў раёнах і акругах вясковых прапагандыстых, дамагчыся сталай працы агітпропгабінэтаў.

10) Асабліва завастрыць увагу ў парторганізацыі на пытаньні аб партвучобе актыву; надаць больш гібкасьці і мажліва большую разнастойнасьць формам партвучобы сярэдняга і акруговага партыйнага актыву:

а) Шырока ўжываць індывідуальную самаадукацыю для тых, якія ня могуць быць зьвязанымі з гуртковай працай, забясьпечыць іх жывой консультацыяй практыкаваць падагульваючыя даклады пасьля прапрацоўкі імі поўнага цыклу ці разьдзелу праграмы.

11) Прымаючы пад увагу ўсё яшчэ недастатковае ахапленьне камуністак партасьветай, лічыць неабходным павялічыць уцягненьне апошніх ва ўсе віды партасьветы, а таксама ахапленьне індывідуальнай самаадукацыяй тых камуністак, якія па сямейна-бытавым умовам ня могуць пасяшчаць школы і гурткі.

б) Організоўваць гурткі па вывучэньню асобных тэорэтычных проблем з вольнай праграмай з заслу-

хоўваньнем пэрыодычных дакладаў аднаго з гурткоўцаў на сходзе ўсіх аднолькова тыповых гурткоў. Організоўваць такія-ж кароткатэрміновыя гурткі па вывучэньню асобных пытаньняў бягучай політыкі (вывучэньне пастаноў партзьезду, пленумаў ЦК, Выканкому Комінтэрну, нацпытаньню і г. д.).

в) Організоўваць гурткі дзелавой падрыхтоўкі з працаўнікоў гаспадарчых установ, працаўнікоў профсаюзаў, савецкіх працаўнікоў і г. д. дзеля вывучэньня політыкі партыі і практычнай працы ў тых галінах, у якіх яны працуюць.

г) Організоўваць летнія курсы перападрыхтоўкі з тэорэтычнай і практычнай праграмай.

12) У мэтах большага разгортваньня самаадукацыі, як аднэй з самых гібкіх форм партасьветы, лічыць неабходным:

а) Узмацніць організацыйнае і мэтадычнае кіраўніцтва, галоўным чынам, плянамернае і сыстэматычнае кіраўніцтва консультантамі.

б) Організацыю завочнага навучаньня пры школьных цэнтрах (вячэрні Комуністычны Унівэрсытэт, саўпартшкола).

в) Узяць некалькіх прапагандыстых выключна для консультацыйнай работы.

13) Канчатковым тэрмінам пачатку заняткаў у школах лічыць у горадзе з 1 кастрычніка, а ў вёсцы з 15 кастрычніка. Даручыць АПА прыняць усе меры да сваечасовага выпуску і снабжэньня акругаў падручнікамі.

## Рэзалюцыя Сакратарыяту ЦК КП(б)Б аб становішчы і далейшых мерапрыемствах і задачах аграпрапаганды.

1. Сакратарыят ЦК адзначае, што аграпрапаганда ў БССР, якая зьяўляецца аднэй з частак агульнага пляну інтэнсіфікацыі сельскае гаспадаркі і праводзіцца разам з усімі іншымі агрокультурнымі мерапрыемствамі партыі і Савецкай улады, за апошнія гады маем некаторыя вынікі ў сэнсе пашырэньня аграномічнае сеткі, дапамогі практычнаму ажыцьцяўленьню аграмерапрыемстваў і ўцягненьня ў гэтую працу сялянскіх мас.

2. Асноўным недахопам у зьмесьце аграпрапаганды зьяўляецца невыстарчаючае выкананьне дырэктыў кастрычнікавага (1926 г.) пленуму ЦК КП(б)Б аб папулярызацыі колектыўных форм вядзеньня сельскае гаспадаркі і коопэрыраваньня бядняцка-серадняцкіх колаў сялянства.

Аграпрапаганда ўсё яшчэ вядзецца за падняцьце сельскае гаспадаркі наогул. Няма сталай увязкі аграмерапрыемстваў з сельска-гаспадарчай і крэдытнай коопэрацыяй. Слабое кіраўніцтва аграпрапагандай з боку партыйных організацый.

3. Выходзячы з гэтага, Акругкомам разам з належнымі дзяржаўнымі органамі, якія праводзяць агрокультурную і асьветную працу на вёсцы, распрацаваць плян агропрапаганды па акрузе на васеньня-зімовы пэрыяд, прымаючы пад увагу выкананьне дырэктыў кастрычнікавага (1926) пленуму ЦК аб яе зьмесьце.

4. Агропрапаганда павінна быць уключана ў агульны плян працы Акругкомаў і праводзіцца пад практычнымі сельска-гаспадарчымі і сэзоннымі лёзунгамі партыі, прыстасоўваючыся да прыродна-гістарычных і эканамічных умоў раёну і плянавых задач мясцовай аграпрацы.

5. Захоўваючы і надалей тып сельска-гаспадарчых курсаў, разьлічаных на абслугоўваньне аднаго альбо некалькіх населеных пунктаў, прапанаваць Наркамзему і Наркамасьветы:

а) Праводзіць працяглыя па часу навучаньня раённыя курсы, разьлічаныя на ўтварэньне кадраў агранамічна-культурных гаспадароў—праваднікоў агрономічных мерапрыемстваў на вёсцы;

б) Комплектаваньне гэтых курсаў праводзіць галоўным чынам за кошт членаў сельсаветаў, колектываў, упаўнаважаных пасёлкаў, коопэрацыйных аб'яднаньняў і прадстаўнікоў сельска-гаспадарчых гурткоў;

в) Забясьпечыць пастаянную сувязь аграномаў з сялянамі, якія скончылі курсы.

6. Пашырыць вядзеньне аграпрапаганды ў форме друку (выданьне мясцовых папулярных лістовак, плякатаў, брашур і г. д.) і ў форме конкурсаў спаборніцтваў як раённага, так акруговага і ўсебеларускага маштабу,—экскурсіі з сялянамі на вопытныя палі, станцыі і савецкія гаспадаркі.

7. Для ўзмацненьня аграпрапаганды ў больш жывой відавочнай форме паставіць перад Белдзяржкіно задачу організаваць зас'ёмку і выпуск фільм сельска-гаспадарчага значэньня, пабудаваных на дасягненьнях сельскай гаспадаркі БССР, для забесьпячэньня імі кіно-перасовак на вёсцы.

8. Наркамзему ўзмацніць папаўненьне аграгабінэтаў пры агрaпунктах навочнымі прыладамі (чародныя літары, дыапозытывы і інш.), а таксама і сельска-гаспадарчай літаратурай для карыстаньня аграпэрсаналу пры правядзеньні агропрапаганды.

9. Павялічыць у наступным 1927-28 годзе водпуск асыгнаваньняў як па дзяржкаштарысу, так і па мясцоваму каштарысу на мерапрыемствы па агропрапагандзе.

10. Прапанаваць Акругкомам праз фракцыі саюзных і савецкіх органаў узмацніць парткіраўніцтва агропрапагандыстымі шляхам пастаноўкі дакладаў на конфэрэнцыях, сходах і нарадах агропрацаўнікоў аб чарговых задачах партыі ў галіне сельскай гаспадаркі.

11. ЦК ЛКСМБ, фракцыі Белсельсаюзу, саюзам сельска-гаспадарчых і лясных рабочых і працасьветы праверыць, у якой меры прымаюць удзел у аграпрапагандзе сябры гэтых організацый, і далажыць ЦК у кастрычніку месяцы бягучага году.

12. Асяродкам, навакол якога павінна быць організована аграпрапаганда, зьяўляюцца Нардамы і хатычытальні.

Прапанаваць НКА даць указаньні на месцы аб актыўным удзеле палітасьветных устаноў ў аграпрапагандзе.

# У ЦКК КП(б)Б

## Удзел ЦКК-РСІ ў правядзеньні агляду газэтамі.

З прычыны большага грамадзкага значэньня правадзімых газэтамі аглядаў і конкурсаў для прабуджэньня грамадзкай ініцыятывы ў справе зьнішчэньня адмоўных момантаў будаўніцтва і выяўленьня паказальных, лепшых прыкладаў і ўзораў—ЦКК дадзена ўказаньне АКК аб неабходнасьці іх удзелу ў арганізуемых конкурсах аглядах у наступных напрамках:

а) скарыстоўваць матар'ялы, якія маюцца ў АКК па пытаньнях газэтных кампаніяў у г. наз. „Трыбуне агляду" (конкурса);

б) дапамагаць правільнаму асьвятленьню і ацэнцы высунутых на агляд (конкурс) аб'ектаў сваёй арганізацыі шляхам склікаьня нарад грамадзкіх і інш. арганізацыяў (рэвіз. камісій, рабселькораў) і з уцягненьнем у гэтую праверку рабочых і сялянскіх мас;

в) скарыстоўваць матар'ялы агляду ў частцы найбольш паказальных і лепшых органаў (работнікаў) для ўнясеньня прапаноў у адпаведныя організацыі;

г) організоўваць наступную (пасьля агляду) разам з рэдакцыямі газэт праверку выкананьня прапаноў агляду (конкурсу).

Пастаноўлена даную работу па ўдзелу ў аглядах прыстасаваць да правадзімага зараз агляду рабочай каапэрацыі („Правда") і спажывецкай каапэрацыі („Зьвязда"), своечасова рэагіруючы па поваду высунутых на конкурсе арганізацыяў. У прыватнасьці, Гомельскай АКК даручана правесьці ў гэтым парадку праверку высунутага ў якасьці лепшага рабкаапа—ТПО Заходн. (разам з РСІ Зах.).

**Аб расьследваньні органамі РСІ ненармальнасьцяў, высьвятляемых „Производственным журналом“.**

ЦКК пастанавіла прасіць ЦСПСБ шырока папулярызаваць сярод проф. організацый (у асаблівасьці ў вытворчых камісіях нарадах) часопіс—УсеЦСПС—НК РСІ СССР, зьвярнуўшы іх увагу на поўнае скарыстаньне вопыту работы вытворчых камісій і эканом. камісій.

Даручана АКК зьвязацца з мясцовымі проф. органамі ў адносінах распаўсюджваньня часопісу і своечасова вытварыць праверку і расьсьледваньне асьвятляемых у ім фактаў безгаспадарчасьці і бюракратызму з прыцягненьнем к гэтаму вытворчых і эканам. камісій, а арг. групе наладзіць праверку рэагіраваньня АКК на карэспандэнцыі па БССР, зьмешчаныя ў „Производственном журнале“.

**Абсьледваньне савецкіх ячэек.**

Прэзыдыумам ЦКК нядаўна былі зацьверджаны вывады і прапановы па абсьледваньню сав. ячэек у напрамку удзелу іх у барацьбе з бюрократызмам і інш. недахопамі дзярж. і гаспадарч. органаў.

Абсьледваньню падвергліся 9 ячэек савецкіх і гаспадарч. ворганаў цэнтральнага і акруговага маштабу—у Менскай, Віцебскай і Бабруйскай акругах.

У якасьці асноўных палажэньняў, якія выцякаюць з абсьледваньня, прэзыдыум ЦКК прызнаў, што ўвага сав. ячэек да пытаньняў барацьбы з бюрократызмам і палепшаньня дзяржапарату за апошняе паўгодзьдзе значна ўзмацнілася. Асабліва дапамагала гэтаму праводзіўшаяся ЦКК—НК РСІ работа па спрашчэньню структуры дзярж. і гаспадарч. апарату, а таксама ўзмацненьне ўвагі партворганаў і друку пытаньням барацьбы з бюрократызмам. Аднак, практычная работа сав. ячэек па лініі ўдзелу ў рабоце па палепшаньню апарату, па барацьбе з канкрэтнымі фактамі праявы бюракратызму, валакіты і інш. недахопамі сав. установ—яшчэ не даволі разгарнулася.

Другімі важнейшымі недахопамі, адзначанымі пры абсьледваньні, зьяўляюцца: слабае ўцягваньне ўсяго парткалектыву, а таксама недастатковае прыцягненьне беспартыйных служачых у барацьбу з бюрократызмам і палепшаньню работы ў сваёй установе, і, акрамя таго неналаджанасьць у многіх выпадках сумеснай работы сав. ячэек і адміністрацыі ў гэтых галінах.

Па вынікам абсьледваньня ЦКК прыняты шэраг прапаноў для палепшаньня работы сав. ячэек.

**Аб высяленьні памешчыкаў.**

У свой час ЦВК і СНК БССР выдалі 21 лютага 1925 г. пастанову аб высяленьні былых памешчыкаў з гаспадарак, якія належалі ім да Кастрычнікавай рэвалюцыі, у два тэрміны: 1-е красавіка 1925 г. і 1-е студзеня 1926 г.

Для правядзеньня ў жыцьцё гэтае пастановы былі абраны цэнтральная і акруговыя камісіі па высяленьню былых памешчыкаў.

Праца камісій як цэнтральнай, так і акруговых зацягнулася. Прэзыдыум ЦКК у сваёй пастанове ад 13-IV г. г. зьвярнуў увагу цэнтральнай камісіі на неабходнасьць узмацненьня яе работы.

Правадзіўшаяся ў сувязі з гэтым праверка дала станоўчыя вынікі, што выказалася ў дадатковым высяленьні 29 сем'яў памешчыкаў за межы БССР.

У агульным выніку гэтае працы з тэрыторыі БССР да гэтага часу выселена 229 сем'яў былых памешчыкаў: з Віцебскае акругі—40 сем'яў, Барысаўскай—25, Магілеўскай—31, Слуцкай—7, Аршанскай—4, Калінінскай—15, Бабруйскай—16, Менскай—9, Полацкай—54, Гомельскай—6 і Рэчыцкай—11.

Калі прыняць пад увагу, што больш буйныя памешчыкі і земляўласьнікі ў пачатку рэвалюцыі пакінулі свае маёнткі і паўцякалі заграніцу, пераважна у Польшчу, дык з высяленьнем памянёнага ліку памешчыцкіх сем'яў праведзена рашучае выкарчаваньне гэтага элемэнту з

з савецкай вёскі. Засталіся толькі некаторыя адзінкі з былых памешчыкаў і земляўласьнікаў, якія па сваёй старасьці не маглі быць выселены і пражываньне якіх у межах БССР зусім не прадстаўляе шкоды.

Пасьля высяленьня памешчыкаў, засталіся зямельныя плошчы ў колькасьці 2.467 дзес. і рознага інвэнтару на 96.183 руб. (паводле няпоўных вестак).

Гэтыя землі і пабудовы былі разьмеркаваны паміж камітэтамі сялянскай узаемадапамогі, школамі, больніцамі, сельска-гаспадарчымі суполкамі і камунамі, аграпунктамі, вэтпунктамі і часткова перадаены працоўнаму сялянству. Сяляне аднесьліся да высяленьня памешчыкаў вельмі актыўна.

У сучасны момант работа па высяленьню памешчыкаў лічыцца скончанай.



